Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4606) 18 сакавіка 2011 г.



# Быць Фёдарам Ястрабам

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Кастуся Дробава**

**Ён жывапісец. Педагог. Галерыст. Лідар Міжнароднай гільдыі жывапісцаў. Стваральнік унікальнай не толькі для Беларусі, але і для ўсёй постсавецкай прасторы, праграмы па навучанні артменеджменту і менеджменту сацыяльна-культурных міжнародных сувязей. Аўтар мастацтвазнаўча-публіцыстычных артыкулаў, нарысаў, эсэ. Яго альбомы "Першы Міжнародны фестываль пейзажу" і "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч" адзначаныя дыпломамі І ступені на Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі-2008". А нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе Фёдар Ястраб кіруе галерэйна-выставачным аддзелам, адбылася прэзентацыя яго кнігі "Мастацтва ў сацыяльнай прасторы".**



Размова пра новае выданне адбывалася падчас вернісажа: разгорнутая ў бібліятэчнай галерэі "Ракурс" экспазіцыя прадставіла карціны з вялікага жывапіснага цыкла "Формула міфа", шматгадовую працу над якім завяршае Фёдар Ястраб. Вось ужо вядомыя па ранейшых выстаўках "Залатая чаша", "Вісячы сад", "Замова", "Феі восені", "Нараджэнне міфа", "Танец вечара"; вось напісаныя за апошні год "Крыніца", "Вершнікі"... Індывідуальная, заўсёды пазнавальная ў кантэксце калектыўных праектаў, прывабная сваёй загадкавай алегарычнасцю творчая манера мастака, мне здаецца, не так настройвае гледача на ўдумлівае сузіранне, як выклікае на маўклівы дыялог. Дыялог з эстэтыкай і вобразным светам кожнага з палотнаў, што падаюцца эпізодамі-спробамі сённяшняга асэнсавання, ці пераасэнсавання, сусветнай, у тым ліку беларускай, міфалогіі, яе ментальнага космасу і сімвалічных зямных дэталяў.

І яшчэ адна экспазіцыя суправаджала ўрачыстае знаёмства з навукова-папулярнай кнігай "Мастацтва ў сацыяльнай прасторы": на выставачных стэлажах размясціліся шматлікія перыядычныя выданні з публікацыямі самога Фёдара Ястраба і — пра яго. Дальбог, прыемнай нечаканасцю было ўбачыць на паліцах знаёмыя старонкі "ЛіМа", а потым, пагартаўшы новы фаліянт, што ўяўляе сабою манаграфічны аўтарскі зборнік, знайсці ў яго асобным раздзеле колішнія лімаўскія тэксты.

Рэцэнзентамі грунтоўнай працы Ф. Ястраба "Мастацтва ў сацыяльнай прасторы" выступілі дактары навук, прафесары М. Мажэйка, А. Смолік ды В. Пракапцова. Адрасуецца выданне спецыялістам і студэнтам гуманітарнай сферы: культуролагам, мастацтвазнаўцам, музеязнаўцам, менеджарам, якія працуюць у сацыякультурнай галіне, дый усім, хто сур'ёзна цікавіцца мастацтвам ці займаецца ім прафесійна. Тое, што тыраж невялікі — 400 асобнікаў, надае асаблівую каштоўнасць кнізе ў вачах бібліяфілаў. Каштоўнасць жа яе зместу найперш ва ўнікальных матэрыялах, прысвечаных надзённым праблемам фарміравання і развіцця мастацкага рынку ў асяроддзі нашых сённяшніх рэалій, спецыфіцы галерэйнай справы. А разважанні мастака пасля выставак, размова пра варункі развіцця сучаснай артпрасторы, позірк на сацыяльны аспект бытавання мастацтва — усё гэта праявы жывога крэатыўнага духу, якія адчуе і ацэніць чытач кнігі. Яна і выглядае вельмі гожа: на 320 старонках змешчаны сотні каляровых ілюстрацый выдатнай якасці — рэпрадукцыі работ сучасных мастакоў, што ўдзельнічалі ў праектах Ф. Ястраба. Нямала тут і фотаздымкаў, у тым ліку з сямейнага архіва аўтара кнігі, якую ён, дарэчы, прысвяціў светлай памяці сваіх бацькоў — Адама і Ядвігі. Выданне ажыццёўлена ТАА "Кузьма" пры фінансавай падтрымцы адкрытага акцыянернага таварыства "Беларускі народны банк" на чале з генеральным дырэктарам Канстанцінам Цэрэтэлі.

Прэзентацыя з аншлагам? Для праектаў Ф. Ястраба сітуацыя тыповая. І яго персанальны вернісаж не стаўся выключэннем. Нездарма ж госці, якія падыходзілі да мікрафона, падкрэслівалі рэдкасную вартасць Фёдара Адамавіча: уменне заўважаць і паважаць кожнага чалавека, цаніць чужую працу, бескарысліва падтрымліваць творчыя памкненні калег. Многія жартам казалі, што колькасць сяброў Ф. Ястраба нават перасягае колькасць насельніцтва Беларусі. Як бы там ні было, а яго дзейнасць на чале галерэйна-выставачнага аддзела НББ спрыяе руху найноўшага айчыннага мастацтва ў еўрапейскую прастору і пашырэнню нашага ведання сённяшніх замежных тэндэнцый у выяўленчай творчасці. Пра ўзаемапранікненне і ўзаемаўплыў духу вялікай кніжнай скарбніцы і духу выяўленчага мастацтва ў рознабаковай працы Ф. Ястраба, пра яго нешараговую натуру, самавіты і незалежны характар, пра значнасць яго творчых, арганізатарскіх, педагагічных дасягненняў гаварылі дырэктар НББ Раман Матульскі, намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Лапцёнак, дэкан факультэта культуралогіі і сацыякультурнай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Мікалай Каралёў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар БДУКіМ Рыгор Шаура, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка, музыкант і мастак Андрэй Плясанаў, генеральны дырэктар Беларускага народнага банка сп. Цэрэтэлі.

> *"Фёдар Ястраб актыўна спрычыняецца да міжнародных пленэраў жывапісу, а летась быў мастацкім кіраўніком і куратарам такой інтэрнацыянальнай творчай акцыі ў Бранску (Расія), куды з'ехаліся мастакі з 9 краін. Ён правёў 15 персанальных выставак і ўдзельнічаў у больш як сотні калектыўных: рэспубліканскіх, замежных, міжнародных. Як аўтар і куратар ажыццяўляе своеадметныя, запамінальныя выставачныя праекты. Іх колькасць перасягнула ўжо 80, і сярод асабліва значных для мастацкага жыцця Беларусі ды папулярызацыі культурнага іміджу нашай краіны ў сусветнай прасторы — міжнародны фестываль лічбавага мастацтва "Terra Nova", міжнародная біенале сучаснага жывапісу "Colorfest", ужо традыцыйная міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія", прэзентацыя беларускіх творцаў "12+" у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, штогадовыя вернісажы "Арт-крок", "Кветкавы рай", "Фестываль пейзажу".*

Тры гады таму Фёдар Адамавіч распавёў мне пра сваю задуму стварыць серыю кніг, якія стануць падручнікамі для навучання вельмі запатрабаваных спецыялістаў, беларускіх артменеджараў і прадзюсараў, якія мусяць і ў цэлым ведаць гісторыю мастацтва, і валодаць асновамі артпрактыкі — элементарна валодаць пэндзлем ды алоўкам, і разбірацца ў мастацкіх тэхніках, каб у пэўным сэнсе быць экспертамі, выходзіць на рынак людзьмі кампетэнтнымі. Значыць, за першай кнігай з'явяцца новыя, як будуць і новыя карціны, і новыя міжнародныя праекты. А хіба можа быць інакш, калі ў чалавеку спалучылася, здавалася б, несумяшчальнае: якасці менеджарскія і артыстычныя, калі паэтычным эпіграфам свайго жыцця ён лічыць Багдановічаў радок: "Мая душа, як ястраб дзікі, што рвецца ў неба на прастор". Калі ён спавядае прынцып: "Жыць, не перашкаджаючы іншым, але сцвярджаючы сваё". І застаецца сабой: Фёдарам Ястрабам.

## Пункціры

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеямі народнага артыста Беларусі Уладзіміра Гасцюхіна, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі Аляксандра Зацэпіна і народную артыстку Расіі Ірыну Алфёраву. У віншавальных лістах былі адзначаны майстэрства Гасцюхіна ствараць яркія вобразы сапраўдных герояў, яркі кампазітарскі талент Зацэпіна, а таксама адухаўлёнасць і непаўторная абаяльнасць гераінь Алфёравай.

На сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі са старшынёй Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барысам Батурай узнімалася пытанне аб падрыхтоўцы да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў сяла "Дажынкі", які ў гэтым годзе пройдзе ў Маладзечне. Свята станецца юбілейным, пятнаццатым, таму вырашана зрабіць сёлетнія "Дажынкі" больш яркімі, змястоўнымі і значнымі.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Слабадчука.

Адбылося першае пасяджэнне Рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта па правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У склад аргкамітэта ўваходзяць намеснікі міністраў замежных спраў, адукацыі, інфармацыі, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснікі старшынь Мінскага, Брэсцкага і Гродзенскага аблвыканкамаў, а таксама Мінскага гарвыканкама, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Узначальвае аргкамітэт міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.

У рамках Адзінага дня інфармавання міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка наведаў Брэсцкую вобласць, у прыватнасці Пружанскі (вёска Кабылаўка) і Бярозаўскі (вёска Малеч) раёны. Міністр сустрэўся з грамадзянамі і работнікамі сферы культуры. У Малечы ён наведаў сельскі Дом культуры, дзіцячую школу мастацтваў і сельскую бібліятэку.

Дні франкафоніі праходзяць у Беларусі. Штогадовая акцыя, якую праводзіць Аддзел супрацоўніцтва і культуры французскай дыпламатычнай місіі ў Беларусі, заклікана папулярызаваць французскую мову і культуру. У праграме Дзён у гэтым годзе — канцэрт французскага выканаўцы Бэнжамэна Палена, выстаўка фотаздымкаў Антуана Ганена "Тарызонты", відэапаказ оперы Рамо "Вандроўнікі" і іншыя мерапрыемствы.

Артысты беларускай эстрады выступілі ў Маладзечне на вялікім дабрачынным канцэрце ў падтрымку адзінокіх ветэранаў вайны і працы, дарослых і дзяцей — інвалідаў першай і другой групы, мнагадзетных і няпоўных сем'яў, што з'яўляюцца падапечнымі Маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа.

Старасвецкі баль для моладзі ў лепшых традыцыях XVIII — XIX стагоддзяў адбыўся ў Наваполацку. Месцам правядзення яго стаў Наваполацкі Палац шлюбаў. Маладыя людзі, запрошаныя на баль, мусілі прадэманстраваць свае манеры, уменне весці размовы, танцаваць. Кампетэнтнае журы вызначыла лепшую пару з дваццаці. Мерапрыемства праходзіла ў межах правядзення Года моладзі, абвешчанага ў Наваполацку.

**Падрыхтавала**
**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Урок Мужнасці

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Ёсць у сталічным Доме літаратара асаблівае памяшканне — Мемарыяльная зала Саюза пісьменнікаў Беларусі. У ёй са сцен пранізліва і дапытліва зазіраюць у твары наведвальнікам тыя, хто ў далёкіх і пагрозлівых 1940-х па доўгу сумлення сталі ў шэрагі абаронцаў радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паэты, празаікі, драматургі, публіцысты… Многія з іх не вярнуліся з той вайны, засталіся назаўжды маладымі, пазбавіўшы наступныя пакаленні магчымасці захапляцца сваёй сталай творчасцю. Другія выжылі і стварылі нямала сумленных, добрых, пранікнёных кніг. Пісьменнік-франтавік Алесь Савіцкі — адзін з іх. У гэты светлы сакавіцкі дзень прыйшоў ён у мемарыяльную залу, каб даць Урок Мужнасці навучэнцам мінскай гімназіі № 25.

Незвычайны ўрок адкрыў кароткай прамовай старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

— У нас з вамі — вялікая краіна, — сказаў ён, — вялікі народ, кожны трэці сын ці дачка якога ахвяравалі сваім жыццём дзеля перамогі над фашызмам. Таму недапушчальна паблажлівае стаўленне да хуліганаў, якія едуць за мяжу, атрымоўваюць там "бакс" і дзеля гэтага "бакса" льюць бруд на наш гонар і славу.

Алесь Савіцкі пранікнёна распавядаў пра сваё франтавое мінулае, пра мары і спадзяванні свайго пакалення і пра тое, чым была для юнакоў і дзяўчат тых часоў радзіма. Гімназісты таксама рыхтаваліся да сустрэчы з літаратарам — яны прачыталі галоўны, самы аб'ёмны твор Савіцкага — раман "Обаль". І іх пытанні, якія ў мностве ўзніклі пасля гэтага прачытання, былі грунтоўнымі, нават філасофскімі. "А ці хапіла б у нас сённяшніх, веры і сілы духу зрабіць тое, што зрабілі дзеля радзімы героі Обалі Фруза Зянькова, Зіна Партнова, Аркадзь Барбашоў?" — гучала ў кожным дзіцячым выступленні. Адказ на гэтае пытанне трэба будзе шукаць ім ва ўласных сэрцах.

Урачыстым акордам мерапрыемства стала ўручэнне грамат Саюза пісьменнікаў Беларусі настаўніцы Аліне Пахвалёнай за стварэнне ў гімназіі музея "Невычарпальная крыніца гісторыі" і найбольш актыўным яе памочнікам-гімназістам.

## Памяць

# Развітанне з Майстрам



**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Яшчэ зусім нядаўна мы святкавалі яго юбілей і жадалі новых творчых поспехаў. Мы зачытваліся яго раманам "Зубрэвіцкая сага", спадзеючыся, што гэты яркі жыццесцвярджальны твор стане першым звяном у ланцугу прозы новага творчага перыяду пісьменніка. Хто ж мог ведаць, што кніга гэтая — апошняя прыжыццёвая, што гэта па сутнасці запавет Майстра. Аб чым жа прасіў нас паэт і празаік Янка Сіпакоў перад сыходам у вечнасць? Кахаць адно аднаго і любіць жыццё, бо твор яго напоўнены замілаваннем да роднай зямлі, свайго народа і клопатам пра тое, каб не абарвалася повязь часоў, каб пасля нас былі ўнукі і праўнукі гэтакcама, як пасля прадзедаў нашых з'явіліся на свет дзяды, а пасля дзядоў — бацькі.

Яго ліра была добрай і мужнай, бо мужнасць, як сам ён сцвярджаў вуснамі сваіх персанажаў, можа і павінна спалучацца з дабрынёй. Тое, што нам у наш поўны мітусні і расчараванняў час будзе моцна не хапаць яго мудрай раўнавагі і радаснай скіраванасці да разумення чалавекам чалавека, гаварылі літаральна ўсе, хто прыйшоў на грамадзянскую паніхіду пісьменніка, каб аддаць апошні доўг павагі.

Пісьменнікі рознага ўзроўню, людзі розных светапоглядаў прыйшлі ў гэты дзень да труны калегі, сябра, настаўніка, паплечніка… Сэрца кожнага агортваў сум. Але сум гэты быў светлы, бо светлы быў чалавек, які сыходзіў ад нас… Калі гаснуць зоркі на зямлі, яны загараюцца на нябёсах. І становяцца пуцяводнымі для тых, хто застаецца жыць.

# Нада мною сёння — «Крыло цішыні»

**Анатоль БУТЭВІЧ**

Вось і яшчэ адзін беларускі праменьчык згас. Пацямнела на небе беларускага прыгожага пісьменства. Адляцеў у свой "Лірычны вырай" Янка Сіпакоў. Пайшоў "Па зялёную маланку". Адышоў у той, кажуць, што лепшы, свет яшчэ адзін нястомны сейбіт, майстравіты руплівец на нацыянальнай ніве. А на гэтым свеце для нас — звыкла, для нашых нашчадкаў — першаадкрыццём, спадзяюся і веру, яшчэ доўга будзе гучаць мо трохі ціхаваты, не крыклівa-гучны, але самавіта-разважны, упэўнена-мудры і выразна адметны голас Творцы. Паэта, празаіка, перакладчыка, эсэіста — сапраўднага Майстра Беларускага Слова. Слова, якое з-пад ягонага пяра выходзіла жывым, мудрым, паклічным, працалюбным. Мо таму набыло яно гэткую мілагучнасць, што Янка Сіпакоў ніколі не разлучаўся з ім, не гідзіўся, разумеючы, што яно — матчына, а "Усе мы з хат".

І таму яшчэ больш балюча ад усведамлення таго, што ў нашым няпростым і разбэрсаным часе, якому нестае гэткай вось разважнасці, нетаропкасці, мудрай супакаяльнасці, спагадлівасці, не будзе яго, носьбіта гэтых і шмат якіх яшчэ добрачалавечых якасцей. Не будзе жывога сіпакоўскага голасу, у іншы стан пераходзіць ягоны жывы чалавечы і мастакоўскі мікракосмас. Але ж застаецца космас ягоных твораў, якія і праз гады будуць тым паклічна-зваблівым праменьчыкам беларускасці, які мо ўрэшце і прывядзе нас да свята самапазнання, самаразумення і паразумення, стане прыкметным арыенцірам на нашым шляху да Беларусі.

Асаблівы боль ад страты разумнага, добрага, шчырага, па-сяброўску крытычнага суразмоўніка, які ўнікліва прыпадаў да нашай гісторыі, на чым мы асабліва паразумеліся, судакранаючыся з роднаснымі пластамі нашага мінулабыцця, а часам беручы ў творчую дарогу адных і тых жа гісторыятворцаў. Мо толькі цяпер я зразумеў, чаму мог Янка Сіпакоў так натуральна арыентавацца ў вірлівай гістарычнай плыні. Бо з нашай нацыястваральнай гісторыяй ён быў "Вочы ў вочы". А ў гэткім стане не схлусіш — ні сабе, ні людзям.

Бывайце, Майстар… Верыцца, што ваш "Сонечны дождж" з "Вясны ў лета" будзе асвяжаць нашы душы, змываць з вачэй замыленасць, дадаваць бадзёрасці не адно нашым целам, але і думкам.

Верце, Ваша "Спадзяванне на радасць" не змарнуецца, бо "Тыя, што ідуць", абавязкова трапяць у "Сад людзей", каб уволю наталіцца вашай "Зубрэвіцкай сагай".

А сёння нас ахінула "Крыло цішыні". Таму давайце памаўчым, паслухаем "Веча славянскіх балад" і ціхім добрым словам памянём іхняга стваральніка — Паэта Янку Сіпакова.

**Казімір КАМЕЙША**

# Ліставанне з вечнасцю

Светлай памяці Янкі Сіпакова

*Радок устрывожыць,*
*як гром сярод ночы,*
*Ды сонечны дождж*
*не пральецца з вясны.*
*Выходзіў у свет,*
*у вясну лістаноша,*
*З трывожнага рання*
*выходзіў, з вайны.*

*"А ціхі свой сум*
*панясеш да каго ж ты?" —*
*Сам вецер на вуха*
*шаптаў сіраце.*
*Плыла ля аблок*
*жураўліная пошта,*
*І твой жураве ль*
*у тым кліне ляцеў.*

*І сам, як лісток,*
*малады і зялёны,*
*Ты сілы за вецер схапіцца не меў.*
*Трымцеў сіратліва*
*на даху вагона,*
*Што з Оршы да Мінска*
*па ночы грымеў.*

*З прыдзвінска-дняпроўскага*
*краю лісточак,*
*Ён там, ля аблок,*
*ужо стане крылом.*
*За вечнасць ён*
*так ухапіцца захоча*
*І будзе ляцець да яе жураўлём.*

*Здалася зіма*
*мне бялюткай пакошай,*
*Хоць срэбным званочкам*
*вызвоньвае дзень.*
*Калі прыпыняе*
*свой крок лістаноша —*
*Баюся я ў вочы яму паглядзець.*

*Боль, смутак і слёзы…*
*Не трэба пра гэта.*
*Ён ліст свой у вечнасць*
*даўно напісаў.*
*А выспеліць травы*
*ў Зубрэвічах лета.*
*Хай выйдзе насустрач*
*з-пад стрэшкі каса!*

*І хай размахнецца*
*крылом жураўліным,*
*На вуснах нашчадка*
*радком празвініць.*
*…Вось так і сціхаюць*
*на кроплі хвіліны,*
*Ірвецца і вяжацца вечная ніць…*

10.03.2011

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь Янкі (Івана Данілавіча) СІПАКОВА і выказвае шчырае спачуванне яго блізкім і родным.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь Янкі (Івана Данілавіча) СІПАКОВА і выказвае шчырае спачуванне яго блізкім і родным.

Літабсягі

# Пісьменнік, вучоны, грамадзянін

Тацццяна ЖУК, Марына ЛІС

**Да 115-годдзя з дня нараджэння К. Крапівы ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падрыхтавана выстаўка "Пісьменнік, вучоны, грамадзянін".**

Юбілейная экспазіцыя адлюстроўвае асноўныя этапы жыцця і дзейнасці К. Крапівы. Яе аснову склалі дакументы, якія ўваходзяць у склад яго асабістага архіва, што захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў, а таксама друкаваныя дакументы з фондаў бібліятэкі.

Літаратурная спадчына пісьменніка прадстаўлена рукапіснымі і машынапіснымі матэрыяламі, зборамі твораў, асобнымі выданнямі, публікацыямі ў перыёдыцы 1920 — 1930-х гг. і часу Вялікай Айчыннай вайны. Сярод твораў, што ўвайшлі ў экспазіцыю, — п'есы "Канец дружбы", "Партызаны", "Хто смяецца апошнім", "Мілы чалавек", "Брама неўміручасці", раман "Мядзведзічы", шматлікія байкі, сатырычныя вершы, эпіграмы, пераклады, зробленыя К. Крапівой: "Прыгоды ўдалага ваякі Швэйка" Я. Гашака, "Рэвізор" і "Жаніцьба" М. Гогаля, драмы А. Астроўскага, байкі І. Крылова.

Экспануюцца таксама дакументы біяграфічнага характару (аўтабіяграфіі, успаміны, пасведчанні, даведкі), дакументы аб дзейнасці К. Крапівы ў Вярхоўным Савеце БССР, Усеславянскім камітэце, Міжнародным камітэце славістаў, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, аб удзеле ў працы Генеральнай Асамблеі ААН і інш.

Шэраг экспанатаў адносіцца да працы К. Крапівы ў Акадэміі навук Беларусі: на пасадзе віцэ-прэзідэнта, у Навукова-метадычным савеце па ахове помнікаў культуры. Пра дзейнасць К. Крапівы-мовазнаўца сведчаць дакументы, што датычаць яго працы па рэдагаванні "Руска-беларускага слоўніка".

На выстаўцы можна пазнаёміцца з узорамі перапіскі К. Крапівы з выдатнымі дзеячамі літаратуры і навукі Беларусі: Я. Коласам, П. Броўкам, П. Глебкам, М. Лыньковым, Я. Брылём, У. Караткевічам, Г. Гарэцкім і інш.

У экспазіцыю ўвайшла вялікая колькасць фатаграфій, якія адносяцца да розных этапаў жыццёвага і творчага шляху К. Крапівы.



Дадатковы каларыт экспазіцыі надаюць па-мастацку аформленыя віншавальныя адрасы, тэатральныя афішы спектакляў, пастаўленых па яго творах.

На выстаўцы можна ўбачыць дакументы аб ушанаванні заслуг К. Крапівы, пасведчанні аб дзяржаўных узнагародах, вершы, працы розных аўтараў, прысвечаныя пісьменніку.

Артлінія

# Як песня без слоў

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Чарада музычных вобразаў, абуджаных магічным гучаннем інструментальных галасоў, злучалася ў фантастычны калаж. Былі тут алюзіі на дасканалую прыгажосць класіцызму, на дух узнёслых і самотных рамантыкаў, на радыкальны авангард XX стагоддзя, на яркую дэкаратыўнасць этнічных матываў і адмысловую вытанчанасць мінімалізму. Гэты канцэрт, наладжаны Мінскім струнным квартэтам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску, уразіў арганічным суіснаваннем музыкі колішняй і стваранай на пачатку новай эпохі. А прысвячаўся ён памяці польскага кампазітара Хенрыка Мікалая Гурэцкага — выдатнай постаці ў сусветным мастацтве нашага часу.**

"Ужо змяркаецца" — опус Х. М. Гурэцкага для струннага квартэта на тэму Вацлава з Шамотул (імя, вядомае ў старадаўняй беларускай касцельнай музыцы) даў назву ўсёй праграме. Яе вядучы Д. Лыбін, не злоўжываючы ўвагай публікі, улучыў у свой лаканічны каментарый нямала пазнавальнай інфармацыі, паказаўшы прытым нязмушанае і стыльнае валоданне беларускім словам. Ад Рэ мінорнага квартэта нашага земляка С. Манюшкі, чыя творчасць рэпрэзентуе і аб'ядноўвае дзве культуры — Беларусі ды Польшчы, працягнулася ніціна рамантычнай лучнасці да Квартэта № 2 К. Шымалоўскага. Своеадметная індывідуальнасць гэтага польскага кампазітара, ураджэнца Кіеўскай губерні, фарміравалася ў асяроддзі вядомай расійскай музычнай сям'і Нейгаўзаў, у сценах



Варшаўскай кансерваторыі, на берлінскіх уроках Р. Штраўса, пад уплывам французскіх імпрэсіяністаў і ў вывучэнні фальклору польскіх горцаў — гураляў. І ў сваю чаргу яна паўплывала на творчае станаўленне Х. М. Гурэцкага (1933 — 2010), сёння ўжо легендарнага майстра, адзначанага найпрэстыжнымі польскімі ды міжнароднымі ўзнагародамі, у тым ліку прэміяй "Трэмі", а ў 2007 г. паводле газеты "The Daily Telegraph" вылучанага ў спіс жывых геніяў. Мінская прэм'ера твора "Ужо змяркаецца", інспіраванага духам традыцыйных польскіх каштоўнасцей, сталася годным ушанаваннем кампазітара, у памяць якога канцэрты ладзяцца сёння па ўсім свеце.

Прагучалі ў канцэрце і "Сем маленькіх фантазій на тэму Глінкі" Д. Лыбіна — кампазітара, чыё імя даўно ведаюць за межамі Беларусі. Твор быў напісаны да 200-годдзя М. Глінкі, "рускага класіка з беларускімі каранямі", для Мінскага струннага квартэта і швейцарскіх выканаўцаў Б. Маера ды Х. Ёнкерса. Гэтым разам полістылістычныя фантазіі ўвасобіліся ў выдатным ансамблі музыкантаў квартэта з флейтыстам С. Махавым ды гітарыстам Я. Грыдзюшкам.

***На здымку: музыканты Мінскага струннага квартэта Ю. Герман, У. Хімарода, А. Уласенка, Д. Скляроў.***

Повязі

# Беларус адкрывае Усход

**Пра творчасць ураджэнца Віцебшчыны напісана і паспяхова абаронена дысертацыя ў Таджыкістане.**

Кастусь ЛАДУЦЬКА

Леанід Мікалаевіч Чыгрын нарадзіўся на Віцебшчыне, у пасёлку Асінторф, у 1942 годзе. У 1945 патрапіў у горад Канібадам у Таджыкістане, куды яго хворай маці, былому вязню фашысцкага канцлагера, параілі пераехаць у пошуках лепшага клімату. Гэтае пасяленне і запісана месцам нараджэння нашага земляка. У 1946-м маці Леаніда памерла. У 1951-м загінуў у шахце бацька (беларус, родам з Гомельшчыны, ваяваў у блакадным Ленінградзе, пасля заканчэння вайны некалькі гадоў служыў у Іране), які і сына ўпершыню ўбачыў у 1948, вярнуўшыся з войска. Хлопца гадавала старэйшая сястра маці. Толькі тады, калі Леаніду было за сорак, яна адкрылася і расказала, што ён на справе — яе пляменнік. Дарэчы, жанчыне хутка пад сто гадоў, і Леанід даглядае яе як родную маці.

Л. Чыгрын пасля заканчэння філфака Душанбінскага педінстытута працаваў журналістам. Напісаў сцэнарыі многіх дакументальных кінафільмаў. Займаўся перакладамі таджыкскай мастацкай літаратуры на рускую мову. У тым ліку — і для маскоўскага выдавецтва "Советский писатель". Нядаўна ў Душанбэ адбылася абарона дысертацыі Валянціны Дзмітрыеўны Струкавай на тэму "Гістарычныя жанры ў сучаснай рускамоўнай літаратуры Таджыкістана (у творчасці Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына)". Годнасць кандыдата філалагічных навук даследчыца атрымала па спецыяльнасці "Літаратура народаў краін замежжа".

Падставы для грунтоўнага літаратуразнаўчага разгляду самыя што ні ёсць вартыя. У сааўтарстве з Ато Хамдамам Леанід Чыгрын напісаў болей як 10 гістарычных раманаў. Сярод твораў, што знайшлі чытацкую ўвагу, — раманы "Хатлонскі бастыён", "Вялікі Шаўковы шлях", "Азар з Уструшаны" "Венецыянец Марка Пола", "Заваяванне Сагдзіяны" і іншыя творы. Згаданыя кнігі выдадзены не толькі ў



Таджыкістане, але і ў Расіі, Кітаі, Італіі, Канадзе, іншых краінах свету. Цяпер і ў Беларусі рыхтуецца да друку раман Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына "Азар з Уструшаны".

В. Струкава, разглядаючы мастацкія здабыткі А. Хамдама і Л. Чыгрына, зазначае переамнасць традыцый, падкрэслівае іх сувязь з творчасцю таджыкскіх гістарычных пісьменнікаў С. Айні, Дж. Ікрамі, С. Улугзадэ. Асобная глава дысертацыі — "Жанрава-стылёвыя асаблівасці рамана "Вялікі Шаўковы шлях" Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына".

З-пад пяра

Народны артыст БССР Уладзімір Гасцюхін спектаклем "Анна Снегіна" (паводле Сяргея Ясеніна) у Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў адзначыў свой 65-гадовы юбілей. Вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра прыйшоў да гледача надзва проста: у народным строі. "Выдатная роля — яскравейшае сведчанне вялікага таленту", — зазначыў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка пасля спектакля. Ён зачытаў прывітальны адрас Прэзідэнта Беларусі. Заставацца як мага больш такім жа таленавітым, яркім, энергічным і горача любімым пажадаў ад імя ўсіх прысутных народны артыст Беларусі Аляксандр Яфрэмаў, які вёў вечарыну.

**Ірына ТУЛУПАВА**

У Мар'інагорскай СШ № 2 адбылася сустрэча з лаўрэатам Мінскай абласной прэміі ў галіне дзіцячай літаратуры Браніславам Зубкоўскім. Пісьменнік расказаў аб працы над кнігамі "Блонь", "Мікалай Чэпік", "Героямі не нараджаюцца", "Чаму Загібелька лепш Парыжа". Зацікавіў вучняў расповед Браніслава Аляксандравіча пра патрыятычную лірыку Якуба Коласа, які апеў у сваіх творах мясціны Пухавіччыны — Тальку, Вусце, Беразянку, Загібельку, Балачанку.

**Васіль ЦЮЛЯКОЎ**

Мужчынскі вакальны калектыў "Благовест" (кіраўнік Сяргей Аграновіч) Выдавецтва Беларускага Экзархата — даволі малады. Ён створаны ў 2008 годзе пераважна з выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Аднак паспеў ужо заявіць пра сябе і ў рэспубліцы, і за яе межамі. Зусім нядаўна "Благовест" атрымаў дыплом І ступені і званне лаўрэата на фестывалі "Коложский благовест" у Гродне. А цяпер рыхтуецца да паездкі ў Італію па запрашэнні прэзідэнта Фестывалю духоўнай музыкі Virgo Lauretana Ламбэрта Піджыні. Сёлета да ўдзелу ў італьянскім конкурсе дапушчана толькі 12 хароў. А беларускі калектыў будзе ўпершыню.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

У Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага адбылася прэзентацыя кнігі Валерыя Гапеева "Урокі першага кахання". Кніга выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" (серыя "Пераходны ўзрост") і прысвечана сучасным падлеткам. Мерапрыемства было арганізавана аддзелам літаратуры для дзяцей і падлеткаў сумесна са школьнікамі, а таксама студэнтамі БрДУ імя А. С. Пушкіна. На сустрэчы В. Гапееў распавёў пра тое, як ствараласся кніга, адказаў на пытанні чытачоў. Аўтар самага цікавага пытання атрымаў падарунак ад пісьменніка.

**Алена ФЕДЗІНА**

Палац мастацтва адчыніў дзверы для адкрыцця выстаўкі "Маладзёжная-2011". Як тое сведчыць з назвы, галоўнымі асобамі праекта сталі маладыя мастакі, якія спрабуюць сілы ў розных мастацкіх накірунках, жанрах, тэхніках. Спыняюць позірк, прымушаюць задумацца, захапіцца, паспрачацца таленавітыя работы "Кліч у Космасе" Алесі Жыткевіч, "Дзявочыя сны" Ганны Ціханавай, "Сняданак" Ганны Радзько, "Сон. Матылі ляцяць на агонь" Івана Сямілетава, "Званок дадому" Глеба Герасімава. "Маладзёжная-2011" — выстаўка, закліканая дапамагчы маладым мастакам у дасягненні творчых мэт.

**Дар'я ШОЦІК**

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела навуковай прапаганды музея Далідовіч Марыі Нічыпараўне з прычыны вялікага гора — смерці яе СЯСТРЫ Волькі.

# Вера ў добрую справу

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**Акрамя ўласна даследаванняў, знаходак, удалых азначэнняў кожны выдатны філолаг мае пэўнае нераскладальнае духоўнае ядро — тое, што беззваротна страчваецца разам з адыходам вучонага ў лепшы свет. Адно праблiскамі яно высвечвае старонкі кніг. І менавіта праз гэта кнігі выдатных вучоных не старэюць, бо тут ужо ўступае ў паўнамоцтвы іншы закон: важна не тое, *што* зроблена, але — тое, *хто* гэта зрабіў. Пячатка майстра была адціснутая на ўсіх без выключэння навуковых працах Генадзя Васільевіча Кісялёва, якому заўтра, 19 сакавіка, магло б споўніцца 80 гадоў.**

Галоўнай тэмай даследчыка заўсёды была беларуская літаратура XIX ст. — постаці В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, К. Каліноўскага, а таксама, вядома, двух "адшуканых класікаў" — В. Равінскага і К. Вераніцына — паўсталі перад чытачамі ў святле дакументальных сведчанняў, здабытых Г. Кісялёвым падчас доўгатэрміновых штудый у архівах. Насычанасць фактамі была настолькі шчыльнай, што па сутнасці не заставалася месца на тую эклектычную псеўдаметадалогію, якой былі запоўнены ў савецкія часы многія літаратуразнаўчыя кнігі. Факты, сабраныя архівістам, няўмольна разбуралі ўсе магчымыя міфы пра беларускіх пісьменнікаў. Думаецца, для Г. Кісялёва гэта было адною з найважнейшых задач — разбураць звыклыя ўяўленні аб прадмеце гаворкі. Як сапраўдны гісторык, ён стараўся перадусім распавесці, "як яно, уласна кажучы, было" (паводле слоў нямецкага гісторыка Ранке), нічога не дадаючы ад сябе — акрамя свайго, бездакорна шляхетнага ,стылю пісьма.

Сёння, бадай, можна сказаць, што, уносячы ў вывучэнне літаратуры метадалогію гістарычнай навукі, менавіта Г. Кісялёў (супольна з С. Александровічам, Г. Каханоўскім, А. Мальдзісам, С. Майхровічам, У. Мархелем і інш.) падштурхнуў да маштабных праектаў кантэкстуальнага літаратуразнаўства — да таго, што, уласна, і называлася раней, яшчэ ў часы Расійскай імперыі, гісторыяй літаратуры: назапашванне фактычнага матэрыялу пра аб'ект даследавання, усебаковага і крытычнага вывучэння крыніц, збору і пошуку ў архівах невядомых твораў і памятак пра пісьменнікаў, пашырэння ведаў пра атачэнне і побытавыя ўмовы жыцця творцаў гісторыі і творцаў літаратуры. У выніку працы ў партрэтах такіх, здавалася б, даўно знаёмых кожнаму беларусу дзеячаў і пісьменнікаў адкрыліся новыя, не вядомыя да таго рысы, якія былі схаваныя пад слоем наноснай фарбы — стэрэатыпных уяўленняў, расхожых меркаванняў, афіцыйна прынятых трактовак. Пад націскам гісторыкаў перафарміроўвалася самое літаратуразнаўства — пафас аб'ектыўнасці змушаў і пад тэарэтычныя выкладкі падводзіць з кожным годам усё больш грунтоўную доказную базу, у выніку чаго і беларуская тэарэтычная думка пакрысе пазбаўлялася ад ранейшых дагматычных установак.

Найперш трэба гаварыць пра ўклад Г. Кісялёва ў вывучэнне пісьменніцкіх біяграфій. Менавіта дзякуючы яму былі адшуканыя новыя матэрыялы самага рознага кшталту — рукапісы некаторых твораў, лісты, службовыя і афіцыйныя дакументы, сведчанні сучаснікаў пра пісьменнікаў XIX ст. З тых сведчанняў вынікалі і забытыя імёны дзеячаў беларушчыны ў сітуацыі беларуска-польска-рускага трохмоўя на нашых землях. Як вынік — на літаратурнай карце Беларусі ледзь не з кожным артыкулам даследчыка праступалі, нібы на палімпсесце, узноўленыя імёны герояў. Дарэчы, пра Г. Кісялёва, які не надта любіў міфы, таксама ўжо склаўся своеасаблівы міф — што менавіта ён знайшоў імёны аўтараў "ананімных" паэм "Энеіды навыварат" і "Тарас на Парнасе" — Вікенція Равінскага і Канстанціна Вераніцына. Гэта, канечне, зусім не так, і гэта ведае кожны, хто сапраўды трымаў у руках і чытаў кнігі Генадзя Васільевіча. Што да Равінскага, напрыклад, то ў сваёй "Загадцы беларускай "Энеіды" Г. Кісялёў нават змясціў адмысловы невялікі раздзельчык "Прысягаюць даследчыкі", дзе выдрукаваў цытаты са сваіх папярэднікаў — тых, хто лічыў Равінскага аўтарам "Энеіды навыварат": ад Я. Карскага да С. Майхровіча (пра Вераніцына, у сваю чаргу, пісаў у 1963 г. Антон Адамовіч, спасылаючыся на бачаныя ім у руках прафесара М. Піятуховіча рукапісы А. Рыпінскага). Вартасць кніг і артыкулаў Кісялёва па гэтым пытанні ў тым, што на падставе архіўных матэрыялаў быў вылучаны найбольш слушны пункт погляду, былі названыя найбольш верагодныя аўтары. Да таго ж дзякуючы Кісялёву пра Равінскага і Вераніцына мы сёння ведаем, пэўна, не менш, чым пра Яна Баршчэўскага альбо нават і Францішка Багушэвіча — настолькі ўдалымі былі пошукі біяграфічных матэрыялаў у архіўных сховішчах і старых перыядычных выданнях.



Генадзь Кісялёў быў адным з тых гуманітарыяў, якія застаюцца ў памяці нашчадкаў надоўга. Перш за ўсё — прыкладам таго, як можна працаваць і як многа сапраўды можна зрабіць аднаму чалавеку, калі працаваць належным чынам. Нават і ў новай для сябе тэме. Добрую памятку зрабілі нядаўна прыхільнікі і паплечнікі вучонага, сабраўшы пад адной вокладкай пры дапамозе выдавецтва "Медысонт" першую ("Сейбіты вечнага") і апошнюю ("Сімволіка Скарыны") ягоныя кнігі. Нарэшт "Сейбітаў…" трэба адзначыць не ўсім вядомы факт, што ў тэксце ўлічаны папраўкі і дапаўненні аўтара, якія ён уносіў у асабісты экзэмпляр (такім чынам, гэта ўжо другое, дапрацаванае выданне). А вось пра эпоху Скарыны і сімволіку яго гравюр Кісялёў пачаў пісаць толькі ў апошні перыяд свайго жыцця. Гіпотэзы, якія выкладае ён у няскончаным сваім даследаванні, адзначаны спецыялістамі як свежыя і новыя. Вось чаго можна дасягнуць упартай працай! І дзіўная рэч, што кніга, выдадзеная ў 2009 годзе накладам у 150 асобнікаў, дагэтуль сіратліва стаіць у многіх кнігарнях, чакаючы ўдзячнага чытача...

Яшчэ адно пасмяротнае выданне пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука" ўжо ў 2010 годзе. Гэта зборнік матэрыялаў да біяграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча "Марцінкевіч герба Лебедзь". Кніга па сутнасці працягвае тую знакамітую серыю гісторыка-літаратурных зборнікаў архіўных дакументаў, з якімі найперш звязвалася імя вучонага — маю на ўвазе "Пуцявінамі Янкі Купалы", "З жыццяпісу Якуба Коласа", "Пачынальнікі".

Спецыяльна ў гэтым кароткім артыкуле нічога не пішу пра Кісялёва-чалавека — па той простай прычыне, што знаёмы толькі з ягонымі працамі. Цікаўных жа адсылаю да яшчэ адной каштоўнай памятнай кнігі, якая выйшла ў выдавецтве "Лімарыус" у 2009 годзе — зборніка артыкулаў "Пачуць, як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва". Тут сабраны цёплыя і шчырыя ўспаміны родных, сяброў, паплечнікаў, падаюцца матэрыялы з архіва даследчыка, прыводзіцца ўнушальны спіс усіх навуковых публікацый Генадзя Кісялёва, да якога, ведаю, ужо сёння звяртаюцца маладыя філолагі і гісторыкі. Другі раздзел зборніка складаюць росшукавыя работы па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. Сярод матэрыялаў зборніка няма ніводнага сярэдняга, "прахаднога", і таму можна сказаць, што ў вучонага ёсць цэлая плеяда наступнікаў. І, магчыма, гэты зборнік стане прадвеснікам імяннога Кісялёўскага зборніка (існуюць жа ў Расіі Тынянаўскі, Лотманаўскі, Корманаўскі!), будуць заснаваны адпаведныя чытанні ў гонар вучонага, на якіх маладыя і сталыя даследчыкі маглі б выступаць з новымі паведамленнямі па літаратуры XIX ст.

# Крыніца мовы невычэрпная

**Ірына ТУЛУПАВА**

**Тыдзень, пачынаючы з панядзелка, 14 сакавіка, лепшыя прадстаўнікі вучнёўскай моладзі нашай краіны гаварылі па-беларуску, паказвалі ўзоры маладзёжнай культуры — якая яна ёсць сёння. Іх згуртаваў Дзяржынск — сёлетні горад Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры. Сабраліся самыя актыўныя, хто дасягнуў вышынь у вывучэнні роднай мовы і пашырэнні яе ўжытку.**

Менавіта з інтэлектуальных спаборніцтваў па мове распачаўся шэраг алімпіяд сярод вучняў агульнаадукацыйных школ і ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Іх арганізатарам выступае Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Свае каманды (усяго іх 8) выставілі ўсе вобласці Беларусі, горад Мінск і — асобна — Ліцэй Белдзяржуніверсітэта. У госці да сваіх сяброў завіталі каманды з Гайнаўкі і Вільнюса.

"Значэнне такіх спаборніцтваў у тым, што іх вынікі падкрэсліваюць яшчэ ролю і значнасць мовы як сімвала нацыянальнай свядомасці, як захавальніцы нацыянальнай адметнасці беларускага народа, — падкрэсліў старшыня журы, прафесар, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец. — Калі бачыш, што наша маладое пакаленне валодае мовай, то ёсць упэўненасць у тым, што яна захавае сваё значэнне для беларускага народа і як сродак камунікацыі, і як сімвал нацыянальнай свядомасці і культуры".

Заключны этап праводзіўся ў тры туры і ўключаў пісьмовыя ды вусныя заданні: напісанне водгуку, выкананне комплекснай работы па беларускай мове і літаратуры ды вуснае выказванне. Насамрэч была магчымасць праявіць сябе і ў прыгожым пісьменстве, і ў выключным красамоўстве. Але падзеі асобнымі алімпіяднымі заданнямі не абмяжоўваліся і знітавалі ў адно цікавасць да мовы, гісторыі, спадчыны. Як жа абысціся без наведвання філіяла музея Якуба Коласа на радзіме паэта ў Стаўбцоўскім раёне альбо не завітаць у Дзяржаўны архіў кіна-фона-фотадакументаў Рэспублікі Беларусь, не ўзысці на Дзяржынскую гару — найвышэйшую кропку Беларусі? А ў залах раённага Дома культуры свае экспазіцыі разгарнулі шматлікія школьныя музеі, наведвальнікаў вітаў школьны тэатр "Батлейка"; эмацыйным пралогам алімпіяды стаў канцэрт, у якім удзельнічалі вучні і выкладчыкі Дзяржынскай гімназіі, школ горада і раёна. Свята мовы стала святам культуры і навукі. У складзе журы — 18 чалавек, сярод іх — прадстаўнікі вядучых ВНУ Беларусі, пераважна з кафедраў беларускага мовазнаўства, мовы і літаратуры.

Інтэлектуальныя спаборніцтвы сёлета праводзяцца ў 27-ы раз. Сёння — заключны дзень алімпіяды. Каля 45 працэнтаў удзельнікаў будуць узнагароджаны дыпломамі. Але, як паабяцаў старшыня Дзяржынскага райвыканкама Мікалай Арцюшкевіч, алімпійцаў чакае шмат спецыяльных прызоў. Іх падрыхтавалі Дзяржынскі райвыканкам, прадпрыемствы і арганізацыі горада і раёна, навучальныя ўстановы Беларусі. Прыз для маладых носьбітаў мовы, хто пашырае літаратурныя ды моўныя абсягі, заснаваны і ад РВУ "Літаратура і Мастацтва".

## Анкета пісьменніка

## У першую чаргу — мастак слова



*1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вышэйшым ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца на ват на ТБ. І яшчэ радзей у газетах. Чаму?*

*2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі вучыць жыць?*

*3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?*

*4. Чаму знікае публіцыстыка? Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?*

**Пісьменнік Васіль МАКАРЭВІЧ:**

**1.** Раней пісьменніка называлі не толькі настаўнікам і вешчуном ісціны, але яшчэ, паводле Шолахава, "прывадным рэменем партыі", як было сказана на адным са з'ездаў пісьменнікаў СССР. Сваімі творамі ён павінен быў перавыхаваць звычайнага чалавека, прышчапіць яму якасці будаўніка камунізму. Самыя таленавітыя і паважаныя пісьменнікі — гэта хутчэй за ўсё асветнікі, чараўдзеі мастацкага слова, якімі былі Я. Купала і Я. Колас. На думку П. Панчанкі, толькі яны і з'яўляюцца па-сапраўднаму народнымі пісьменнікамі. А што да вешчуна ісціны, то яго падмянілі тэлевізійныя экстрасенсы і тэлепаты, якія зранку і дапазна бубняць, што адбываецца ў свеце сёння, і ведаюць, што адбудзецца заўтра. Дык навошта пісьменнік на тэлебачанні? Газетным шчырунам і аракулам таксама не трэба памагатыя. Тут бы і парупіцца нам у СПБ, каб чыноўнікі знялі з сябе кальчугі раўнадушша і адчынілі дзверы ў свае замураваныя крэпасці, бо самі творцы не адважацца штурмаваць іх. У гэтых адносінах яны прыватныя асобы.

**2.** Хіба знойдзецца такі ўнікальны прыбор, якім можна было б дакладна вызначыць, што сталася з норавамі? Нельга прыкінуць і на вока. Пытанне гэта — для навукоўцаў розных прафесій і спецыяльнасцей. У адным нельга памыліцца: людзям старэйшага пакалення трэба было займець такі імунітэт, псіхалагічную і фізічную загартоўку са звышвысокай устойлівасцю, каб супрацьстаяць франтальнаму націску, які вядзецца ў асобных перадачах па маскоўскіх тэлевізійных каналах. Відаць, разлічаны яны на поўнае і татальнае вытручванне ў чалавечай душы ўсяго гуманнага, што з'явілася ў ёй на працягу тысячагоддзяў. Невядома, колькі духоўных інвалідаў застанецца сярод непаўналетніх вісусаў і дурнічак з абручамі і кліпсамі ў носе, якія напоўніцу глытаюць атрутную тэлевізійную патаку з дэвізам: жыві для сябе, лаві кайф! Трэба быць сляпым і глухім, каб не бачыць, якая іржа грызе і падточвае нашы норавы.

**3.** Калі ў чалавека адсутнічае талент, мастацкая фантазія, то няхай ён не спіць і не есць, з ранку да ночы займаецца тым клопатам, які называюць грамадскай дзейнасцю, гэта яму паможа ў мастацкай творчасці не больш, чым хваробе кашаль. Грамадская актыўнасць пісьменніка можа па-добраму паўплываць на выдаўца ці рэдактара часопіса, каб злітаваўся і даў твору "зялёную" вуліцу.

**4.** Публіцыстыка — жанр, які не можа існаваць без палемікі, дыскусіі. А пра што можна спрачацца? Як невідушчай бабцы ўтачыць нітку ў вушка іголкі ці чаму зайцы абгрызаюць яблыні? Каму яна трэба, такая публіцыстыка, і хто ёй будзе займацца? А калі ўсур'ёз павесці гаворку, напрыклад, пра тое, чаму ў сёлах і гарадах знікаюць беларускія школы, чаму кніжкі нашых аўтараў трэба шукаць у кнігарнях са свечкай ды і ці мала яшчэ пра што ў такім плане?

Нарыс хоць і невідзімка, але па святах можна і яго сустрэць. Нельга не згадаць П. Сабіну і яго творы пра Палессе. Аўтар умее ўзнавіць маляўнічыя карціны гэтага краю, знайсці цэлыя россыпы прыродных жамчужын, паказаць чалавечую душу, характар. Некаторыя аповесці і раманы нашых творцаў, у якіх малююцца падзеі, што адбываліся ўчора ці мелі месца ў недалёкім часе, відаць, з-за спрошчанасці і прымітывізму хутчэй за ўсё нагадваюць нарысы. Сустракаюцца і такія, што ўяўляюць сабой разгорнутую інфармацыйную карэспандэнцыю ці біяграфічную даведку, разбаўленую белетрыстычнымі падрабязнасцямі, падобнымі да хімікатаў ці штучных дабавак.

*Праектная дзейнасць*

# На пакручастых дарогах

Ірына ТУЛУПАВА

**Сучасны бібліятэкар — не той ціхоня-акулярык, якога паказваюць у кінафільмах. Ён бярэ на сябе функцыі, якіх раней выконваць не даводзілася, знітаваныя з музейнай дзейнасцю, краязнаўча-пошукавай, выдавецкай, выставачнай, прадзюсарскай... Бібліятэкі пераўтвараюцца ў вялікія і дзейсныя сацыякультурныя цэнтры выхавання інтэлектуальнай эліты. Але кожны рэгіён робіць гэта па-свойму. Сёння тры кірункі дзейнасці прэзентуе Гомельшчына.**

## Паміж Бранскам, Чарнігавам і Гомелем

У гэтых гарадах — чытацкая аўдыторыя, інтэлектуальная і начытаная. Бібліятэкараў Бранскай, Чарнігаўскай і Гомельскай абласцей знітоўваюць сяброўскія і прафесійныя кантакты, распачатыя амаль сорак гадоў таму. Асноўнымі пунктамі сустрэч сталі Сямёнаўская і Гараднянская (Украіна), Клімаўская і Старадубская (Расія) і Добрушская (Беларусь) цэнтральныя раённыя бібліятэкі. Апошнімі гадамі да такога прафесійнага суполніцтва актыўна сталі далучацца ўстановы Гомеля, Лоеўскай, Веткаўскай, Светлагорскай і Рэчыцкай бібліятэчных сістэм.

Насельнікі трох сумежных абласцей абменьваюцца досведам працы і... навінкамі літаратуры: расказваюць пра выданні апошніх гадоў, планы выдавецтваў ды пра новую метадычную літаратуру; прыглядваюцца да электронных баз дадзеных; абменьваюцца абласнымі перыядычнымі выданнямі і прафесійнымі даведнікамі — дапамагаюць узбагачаць фонды ўнікальнымі інфармацыйнымі рэсурсамі. Так рэалізуецца праект, запачаткаваны ў 2002 годзе, "Бібліятэка — цэнтр дыялога і культур".

— Цяпер, — распавядае Валянціна Дуброва, — у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы распрацоўваецца праект "Бібліятэчныя скрыжаванні" — у межах конкурсу праектаў Бібліятэчнай асамблеі Еўразіі. Аўтар праекта — намеснік дырэктара бібліятэкі, старшыня Гомельскага гарадскога аддзялення Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Юрый Максіменка. Міжнародны характар стасункаў Гомельская абласная імкнецца захаваць і пашырыць. Да традыцыйных стасункаў, семінараў і "круглых сталоў", абмену дэлегацыямі далучаюцца і больш актуальныя. Мяркуецца стварэнне асацыяцыі бібліятэк-пабрацімаў; карпаратыўнага інфармацыйнага рэсурсу "Славянскія карані"; перасоўнай фотавыстаўкі "Магія родных месцаў"; правядзенне маніторынгу беларускіх дыяспар у абласных цэнтрах Расіі. Паспрабуем наладзіць з імі сувязі па прасоўванні беларускай культуры і літаратуры, — запэўнівае Валянціна Пятроўна.



**Візітка**

***Валянціна ДУБРОВА — дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна. Нарадзілася ў горадзе Махачкала (Расія, Дагестан). Скончыла бібліятэчны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры, працавала загадчыцай тэхнічнай бібліятэкі шахтакіравання ў адным з гарадоў Данецкай вобласці, а ў 1975 годзе прыйшла ў Гомельскую абласную ўніверсальную бібліятэку і з 1998 года з'яўляецца яе дырэктарам.***

## Сваё, радзіннае...

Сёлета ў бібліятэцы плануецца адкрыць музейныя экспазіцыі, прысвечаныя пісьменнікам-землякам М. Мятліцкаму і М. Башлакову. Валянціна Дуброва тлумачыць гэта асаблівай увагай да творчасці сучаснікаў: "Трэба, каб чытачы ведалі, хто цяпер шчыруе на літаратурнай ніве". Памятныя свае рэчы і рукапісы пісьменнікі перадалі ўжо ўстанове. Увогуле, стварэнне экспазіцый — частка бібліятэчнай працы. Гомельская абласная — адзіная ў Беларусі, дзе працуе пяць (!) электронных музеяў: І. Шамякіна, І. Мележа, І. Навуменкі, А. Макаёнка, Б. Сачанкі. Але, зразумела, перш чым з'явіліся такія, трэба было сабраць дастаткова матэрыялу і для рэальных экспазіцый.

Сёлета вырашана павялічыць колькасць беларускамоўных выданняў у фондах бібліятэкі. Прапагандаваць беларускую кнігу ды культуру будуць шматлікія выстаўкі і экспазіцыі. Сярод іх — "Залатая скарбніца Беларусі" (па кнігах У. Ягоўдзіка); "Па сцяжынках спадчыны" (свята беларускага фальклору); "Беларусь – мая песня" (выстаўка нотных выданняў беларускіх кампазітараў), "Незабыўны Максім Багдановіч" (да 120-годдзя з дня нараджэння паэта).

## Адвечнае і часовае

На сваім сайце Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка распачала акцыю "Кніга тыдня". Штотыднёва бібліятэкары адбіраюць адну "самую-самую" кнігу і пішуць рэкамендацыі на яе. Допісы датычаць выданняў, цікавых інтэлектуалам, людзям, неабыякавым да сённяшніх рэалій, тым, хто хоча мець у суразмоўцах разумную кнігу-дарадцу, і — кніг папулярнага чытва, якія часцей сустрэнеш на палічках камерцыйнага фонду.

З добра зарэкамендаваных, запачаткаваных у XXI стагоддзі праектаў варта, бадай, згадаць і "Зводную картатэку перыядычных выданняў, якія атрымліваюць буйнейшыя бібліятэкі Гомеля". У праекта — 9 устаноў-прыхільніц. Сярод тых, хто складае такі зводны каталог, — Беларускі гандлёва-эканамічны ўніверсітэт спажывецкай кааперацыі, гомельскія ВНУ — медыцынскі ўніверсітэт, універсітэт транспарту, тэхнічны ўніверсітэт, універсітэт імя Францыска Скарыны ды іншыя.

***На здымку: дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Валянціна Дуброва.***

*Жыве слова*

# Адказнае «Ў»

Вяртанне цікавасці грамадства да кнігі, да чытання — тэма актуальная ва ўсім свеце. Захаванне цікавасці да беларускай кнігі — задача кожнага бібліятэкара, бо гэта яшчэ і тэма захавання роднай мовы, традыцый нашага народа. На жаль, беларуская літаратура сёння не такая папулярная, як руская. Не скажаш, што вучні ўвогуле не цікавяцца беларускімі аўтарамі, але, як правіла, звяртаюцца толькі па беларускамоўныя творы, прадугледжаныя школьнай праграмай.

Каб паспрабаваць выправіць гэтую сітуацыю, Мар'інагорская гарадская бібліятэка ўключылася ў рэспубліканскую акцыю "Чытаем па-беларуску". Афармілі кніжную выставу "Чытаем па-беларуску. Далучайся і ты!" і абвясцілі адмысловы літаратурны конкурс. Дзецям прапанавалі скласці слова "Цудоўна!". Для гэтага неабходна было прачытаць 7 кніг: тры — экалагічнай тэматыкі (каб атрымаць першыя літары слова "Ц, У, Д"), адну беларускую казку (літара "О"). Літара "Ў" "адказвала" за твор Якуба Коласа (у рамках Каласавін на Пухавіччыне), а каб скласці ўсё слова да канца, дзеці павінны былі прачытаць беларускае апавяданне і вершы. Усе выдадзеныя на рукі беларускія творы фіксаваліся. Акрамя таго, у бібліятэцы арганізавалі чытанні на роднай мове.

Як дапаўненне да акцыі ў спіс для абавязковага чытання ўнеслі кнігу Янкі Маўра "Палескія рабінзоны". Бібліятэчны тэатр "Усмешка" падрыхтаваў спектакль на беларускай мове "Як воўк стаў вегетарыянцам" паводле казак Якуба Коласа.

У выніку палову беларускамоўных кніг, якія дзеці звычайна чытаюць за год, яны прачыталі падчас акцыі. Акцыя "Чытаем па-беларуску" працягваецца.

**Таццяна СВІРЫДЗЕНКА, загадчыца Мар'інагорскай гарадской бібліятэкі Пухавіцкага раёна**

# А цяпер — гарбаты!

**Ці ведаюць беларусы сваю родную мову? Адказ даюць вынікі апытання, праведзенага сярод чытачоў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. Герцэна. Удзельнікам было прапанавана перакласці на рускую мову наступныя беларускія словы: *пернік (пряник), дыван (ковёр), часопіс (журнал), гарбата (чай).***

Парадавала, што 92 працэнты апытаных ведаюць пераклад слова *часопіс*, 2 працэнты палічылі, што гэта *летопись*, астатнія 6 працэнтаў не змаглі даць адказ. Амаль не вагаліся ўдзельнікі апытання пры перакладзе слова *гарбата*: 91 працэнт добра ведае, што гэта *чай*, 2 працэнты палічылі, што гэта *скрыўленне хрыбетніка*, 2 працэнты звязалі значэнне са словам *багата*, а 5 працэнтаў увогуле не змаглі адказаць. Сумнае становішча і з такім знаёмым, на першы погляд, словам *дыван*. Да сённяшняга часу большасць апытаных — 54 працэнты — упэўнены, што гэта *диван*, астатнія — 46 працэнтаў адказалі правільна — *ковёр*. Цікавыя варыянты адказаў мы пачулі, калі прапанавалі перакласці слова пернік: 78 працэнтаў чытачоў звязалі пераклад са словам *перина*, *подушка*, 1 працэнт палічыў, што гэта *передник*, і, нарэшце, 21 працэнт даў правільны адказ — *пряник*.

Пасля падлікаў успомнілася: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі..." — запавет гэтыя дадзены бы нам яшчэ Францішкам Багушэвічам. У трэцім тысячагоддзі мы, нашчадкі, у поўнай меры ўжо адчулі праблемы беларускай мовы і гатовыя паступова іх вырашаць.

**Марына СТУПІНСКАЯ**

*Зачытаныя кнігі*

**Чытач у бібліятэцы не бывае выпадковым. Як і яго выбар кнігі. У залежнасці ад узросту, адукацыі, пары года чытацкія прыярытэты мяняюцца. Рэйтынгі найбольш чытаемых кніг у розных аддзелах бібліятэк выяўляюць гэту заканамернасць. Якую ж кнігу бяруць у кнігарні і якую — у бібліятэцы, калі не трэба галасаваць рублём?**

**Найбольш запатрабаваныя кнігі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна (студзень — люты 2011 г.)**

### *Аддзел абслугоўвання школьнікаў малодшых класаў*

### Кнігі беларускіх аўтараў

**Раіса Баравікова.** Казкі з гербарыя : для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту / Раіса Баравікова. — Мінск: Літаратура і Мастацтва", 2008.

**Анатоль Бутэвіч.** Прыгоды памаўзлівай Рыскі: займальная казка з трагічным фіналам: для малодшага школьнага ўзросту / Анатоль Бутэвіч. — Мінск: Юнацтва, 1999.

**Уладзімір Ліпскі.** Прыгоды Нуліка: аповесць-казка / Уладзімір Ліпскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2007.

**Павел Місько.** Прыгоды Бульбобаў : аповесці: для сярэдняга школьнага ўзросту / Павел Місько. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2004.

**Павел Місько.** Эрпіды на планеце Зямля: аповесць / Павел Місько. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2007.

### Замежныя аўтары

**Александрова, Г.** Как домовёнок Кузька звёзды спасал / Г. Александрова. — Москва: Стрекоза-Пресс, 2007.

**Астрид Лингрен.** Пеппи Длинныйчулок / Астрид Лингрен; перевод со шведского Л. Лунгиной. — Москва: Астрель: АСТ, 2009.

**Прокофьева, С. Л.** Астрель и Хранитель Леса: повести-сказки / С. Л. Прокофьева. — Москва. Дрофа, 2001.

**Саломатов, А. В.** Цицерон — гроза тимиуков: фантастическая повесть / А. В. Саломатов. — Москва: Дрофа, 2001.

**Успенский, Э. Н.** Любимая девочка Дяди Фёдора: повесть-сказка: для младшего школьного возраста / Эдуард Успенский. — Москва: Самовар, 2006.

### *Аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры*

**Борисенко, Н. С.** Освобождение: от Хотимска до Могилева и Бобруйска (сентябрь 1943 года — июнь 1944 года) / Н. С. Борисенко. — Могилев: Могилевская укрупненная типография имени Спиридона Соболя, 2009.

**Великая Отечественная война советского народа** (в контексте Второй мировой войны): хрестоматия: пособие для учащихся 11-го кл. / сост. А. А. Коваленя, М. А. Краснова, В. И. Лемешонок, С. Е. Новиков; науч. ред. А. А. Коваленя. — Минск: Белорусская наука, 2008.

**Мельник, В. А.** Основы идеологии белорусского государства: учебное пособие / В. А. Мельник. — Минск: Вышэйшая школа, 2009.

**Национальная экономика Беларуси**: учебник / В. Н. Шимов. — Минск: БГЭУ, 2009.

**Руцкая, А. В.** Методыка выкладання беларускай літаратуры: вучэбны дапаможнік для студэнтаў ВНУ па спецыяльнасці "Беларуская філалогія" / А. В. Руцкая, М. У. Грынько. — Мінск: Издательство Гревцова, 2010.

### *Абанемент*

**Акунин, Б.** Нефритовые чётки: роман / Борис Акунин. — Москва: Захаров, 2008.

**Акунин, Б.** Сокол и Ласточка: роман / Борис Акунин. — Москва: ОЛМА Медиа Групп, 2009.

**Веллер, М.** Всё о жизни: всё о том, как устроена эта жизнь и этот мир, и почему ты чувствуешь то, что чувствуешь, хочешь то, что хочешь, делаешь то, что делаешь, и с тобой происходит именно то, что происходит / Михаил Веллер. — Москва: АСТ, 2008.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Ён, яна і ён — паміж ноччу і днём




Убачыўшы ў лютаўскім нумары "Полымя" аповесць Ніны Рыбік "Паміж днём і ноччу", пазнаёміўшыся са сціслай біяграфіяй аўтара, яе адукацыяй (Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, факультэт журналістыкі БДУ — завочна), месцамі працы (хойніцкая і астравецкая раённыя газеты), амаль не сумняваўся, што чакае мяне наперадзе. Без ваганняў меркаваў, што з-пад пяра пісьменніцы павінен быў з'явіцца яшчэ адзін традыцыйны варыянт "неўміручай" вясковай прозы, аздобленай клопатамі і інтарэсамі маленькага правінцыяльнага гарадка.

З прыемнасцю прызнаю сваю памылку. "Паміж днём і ноччу" — твор гарадскі, адметны сучаснымі рэаліямі. Галоўных герояў у аповесці трое. Надзея, якую кінуў муж неўзабаве пасля вяселля, доўгі час адна выхоўвала хлопчыкаў-двайнятак. Віктар, яе другі муж, маладзейшы за яе на дзесяць гадоў, працуе разам з Надзеяй. Ён пакахаў Надзею і вярнуў ёй веру ў шчасце. Аня, "маладзейшая за яго роўна на столькі, колькі старэйшая Надзя", да якой Віктар пазней сышоў у пошуках маладосці і асалоды. Згодна сюжэту твора, праз пэўны час герой пачынае разумець, што, магчыма, зрабіў памылку. У наваградскую ноч мужчына апынаецца перад выбарам, з кім праводзіць свята: з прыцягальнай Аняй, якой Віктар патрэбны, "пакуль мае сілу, работу, пасаду, прыносіць ёй грошы і адорвае дарагімі падарункамі", ці з Надзяй і сваёй дачкой Таняй. Назад у сям'ю яго клічуць "пачуццё віны і абавязку. Ды яшчэ прывязанасць да дачкі. І тое ж самае пачуццё самазахавання — ён разумеў, што ніхто і ніколі не будзе пра яго так клапаціцца, як Надзя". Але адначасова "ў яго не было ніякага жадання вяртацца да жонкі. Не хацелася бачыць яе добрыя спагадлівыя вочы — і ўсё астатняе жыццё адчуваць вінаватасць перад ёй за тое, што ён ужо ніколі не зможа глядзець на Надзю з тым каханнем і захапленнем, як тады, у юнацтве".

Уважлівы і скептычны крытык можа папракнуць аўтара ў тым, што жаночыя гераіні аповесці празмерна адназначныя і ўвасабляюць цалкам супрацьлеглыя рысы характару. Аня пры сваёй прыгажосці сабрала букет адмоўных рысаў характару, а Надзя выглядае проста зямным анёлам, недацэненым сваім мужам. Згаджуся, такія абставіны сапраўды маюць месца. Больш за тое, вобраз Віктара наогул выпісаны вельмі слаба. Але адсутнасць выразнай характарыстыкі герояў у нечым ураўнаважваецца шэрагам іншых станоўчых якасцей аповесці.

Твор "Паміж днём і ноччу" напісаны ў добрым чытэльным стылі, вельмі натуральна гучаць амаль усе дыялогі, у іх няма фальшу. Удала паказаны рэаліі сённяшняга жыцця. Паход у рэстаран, "мерседэс", што застаўся аднаму з герояў другога плана ад бацькоў, праца ў бухгалтэрыі — усе гэтыя, здавалася б, дробныя моманты становяцца трапнымі дэталямі, якія дапамагаюць зрабіць твор жывым. Падчас прачытання няма ўражання, што дзеянне адбываецца ў вакууме, у бясчассі. Асаблівая ўдача Н. Рыбік — вельмі шчырая, цёплая атмасфера, у якую, нягледзячы на трагічнасць асобных падзей, трапляе чытач. Адчуваецца, што аповесць напісана не для самарэалізацыі, а каб выказаць чытачам тое, што турбуе і непакоіць, і запрасіць у свет сваіх герояў.

Аповесць "Паміж днём і ноччу" складаецца з чатырох частак. Прыведзеная вышэй характарыстыка найбольш адпавядае першым тром раздзелам ("Дзень…", "Ноч…", "Паміж…"). Напрыканцы трэцяй часткі Н. Рыбік здолела максімальна ўскладніць інтрыгу і прывесці Віктара па раздарожжы — з кім жа далей ісці па жыцці. Аднак фінал аповесці прыкметна расчараваў. Замест псіхалагічна патлумачанага выбару або хаця б сціслага аповеда пра далейшыя падзеі ў рэтраспектыве, пісьменніца ўвяла ў чацвёртай часткі ("Раніца") новую гераіню, Валянціну. Магчыма, менавіта з ёй, паводле аўтарскай логікі, галоўны герой павінен быў звязаць свой лёс.

Для аб'ектыўнасці варта прызнаць, што такое развіццё падзей не здаецца абсалютна неверагодным. Але толькі тады, калі б яно вынікала з логікі развіцця дзеяння. Пакуль жа складваецца ўражанне, што аўтар проста пазбегла вырашэння пытання, на якое не было адназначнага адказу. Таму выпадковая сустрэча на Новы год блізкіх душ, якая адбываецца ў фінале, падалася проста банальнай. Наогул, аповесць (за выключэннем апошняй часткі) стварае ўражанне досыць роўнага твора, які, пры пэўным удасканаленні з боку аўтара, мае шанц зацікавіць чытачоў.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Дагістарычныя сны




Адгортваючы невядомы табе твор, заўсёды ведаеш: зараз пачнуць распавядаць нейкую казку. Іншае пытанне — што за казка? І як распавядаюць? Адказ знаходзіш пакрысе.

Твор Г. Навасельцавай напачатку адштурхнуў мяне. Баюся нават, што не аднаго мяне. Каламутная плынь аповеда, дзе сюжэт — гэта ўсяго толькі пераход з аднае метафары-купіны да другой, і аўтар, здараецца, не дае рады пераскочыць трапна, у выніку чаго правальваецца разам з чытачом у багну ўласнага *маўлення*…

Але багна, як пісаў Васіль Быкаў, умее хаваць свае таямніцы, і некаторым, раней ці пазней, неадменна захочацца іх разгадаць.

Тая мастацкая прастора аповесці, што збольшага замяняе сабою сюжэт — старажытная дагістарычная, далетапісная наша зямля і народы, што на ёй пражывалі. Сёння яна вабіць многіх маладых, хутчэй нават і не яна — дух зямлі, які, праўда, шторaз найбольш спалучаецца з духам рэцыпіентаў, чым з рэальным сваім, недасяжным бадай адпаведнікам. Але багна цягне, і вось героямі становяцца народ неўраў і цмокі, Пярун і Чарнабог, Папараць-Кветка і ваўкалак. Я б не гаварыў пра ўсё гэтае глупства зусім, калі б у нашым выпадку, на матэрыяле аповесці Г. Навасельцавай, яно было б глупствам. Тут зусім іншае — сур'ёзная справа: няма той заўсёднай прафанацыі, калі сустракаешся з творам на, скажам так, "неаязычніцкую тэматыку".

Вартасць твора, відаць, можна вымяраць і наяўнасцю/адсутнасцю сітуацыі "падманутых чаканняў". У гэтым пункце аповесць "Святло зямлі Неўрыда" па-за канкурэнцыяй. Аматары-неапаганцы, на жаль ці на шчасце, не сустрэнуць тут дэтэктыўнага псеўдафэнтэзі кшталту Перумава ці Пулмана. Аднак і эзатэрыкі-прафесіяналы не атрымаюць поўнага задавальнення — бракуе падрабязнасці ў апісаннях абрадаў і ініцыяцый, няма занурэння ў глыбіні тэасофскага блудаслоўя (як гэта назіраецца, прыкладам, у тэкстах М. Калядната).

Аўтарка балансуе на мяжы існуючых практык, і гэта вабіць нават і больш за неапаганскія "чары".

Сёння ў прозе выйграюць звычайна два шляхі: альбо лавіць чытача на кручок з дапамогай вострасюжэтнасці, альбо здзіўляць сваімі аўтарскімі інтэнцыямі, выказанымі праз апавядальніка ці праз свядомасць галоўнага героя (якога крытыкі чамусьці любяць атаясамліваць з рэальным аўтарам). У творы Г. Навасельцавай першага няма, а з другім узнікаюць праблемы і пытанні (лепш, калі пытанні ёсць). Бадай, тут якраз той выпадак, калі аўтарскія інтэнцыі вынікаюць з усяго ходу аповеда, не выяўляюцца наўпростава. Але асноўны, наймацнейшы чыннік твора — лірызм. Бадай ён і з'яўляецца прычынай таго адштурхоўвання ўспрымання, якое абавязкова ўзнікае па першым часе. Чытач звыкла хоча адразу даведацца: хто, што, дзе, навошта? Між тым, адказаў яму не даюць — хранатоп неакрэслены, толькі напрыканцы высвятляецца, што апошняга чарадзея-неўра клічуць Светавіт з роду Свецічаў. Пад Неўрыдай толькі паводле асобных згадак угадваецца Беларусь.

У гэтым сапраўдным моры лірызму літаральна плаваюць міфапаэтычныя астравы, з немалой натугай звязваючыся масткамі паміж сабой — вобразы і матывы славянскай міфалогіі, знаёмыя кожнаму, хто адкрываў кнігі Пропа, Меляцінскага, балазе і нешта больш папулярнае. Усё тэарэтычнае засвоена аўтарам дасканала. Але, на маю думку, каб твор займеў чытача, трэба ўсё-такі думаць крыху і пра яго — хаця б і пра мэтавую аўдыторыю нефармалаў з ваенна-гістарычных клубаў, некаторым з якіх будзе няпроста прабрацца праз гушчар аўтарскіх эмацыянальных апісанняў.

Відавочна, што гэта твор для "далучаных". Ён чытаецца з вялікай цяжкасцю. Задавальненне па прачытанні сумнеўнае. Але, тым не менш, такога ў нашай літаратуры яшчэ не было. Гэта дакладна.

# Ці скарачаць падборку да хоку?

Алеся ЛАПІЦКАЯ




Вершы, як і кожную з'яву ў свеце, можна класіфікаваць паводле безлічы параметраў. Але пачытацку, для сябе, можна мець якую-небудзь простую сутнасную класіфікацыю, якая "ўсплывае" штораз, калі звяртаешся да паэзіі. Так, ёсць паэзія гукаў і ёсць паэзія вобразаў, якая часам кандэнсуецца да паэзіі сэнсаў. Яшчэ ёсць мініяцюры і абразкі, якія можна ператтварыць у верлібры, ёсць пісьменніцкія афарызмы, вартыя быць хоку — розніца толькі ў арганізацыі тэксту.

А яшчэ ёсць гэтак званая беларуская традыцыйная паэзія — мілагучная, але без выбітных гукавых эксперыментаў, лірычная, прысвечаная якой-небудзь адвечнай тэме — але часцяком на адзін верш будзе ўсяго два-чатыры радкі з яркімі метафарамі альбо адмысловымі і цікава сфармуляванымі думкамі. Удалыя радкі выпінаюцца, і здаецца, што некалькі астатніх катрэнаў напісаныя толькі каб дацягнуць да нейкага класічнага ўзору. Можа быць і так, што верш атрымаўся ладны, гожы, нічога ў ім не вытыркаецца, затое нічога адмысловага таксама няма — звычайныя, частотныя для паэтаў развагі і ўражанні.

Багаты матэрыял для роздуму над сённяшняй традыцыйнай паэзіяй прапануе другі нумар "Нёмана", дзе змешчана паэма Алеся Бадака "Эміграцыя", падборкі вершаў Міколы Шабовіча і Маргарыты Прохар, асобныя вершы сяброў Мінскага творчага аб'яднання "Світанак" (створаны людзьмі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі).

Падборка вершаў "Світанка" атрымалася не горшай, чым падборкі Шабовіча і Прохар: лепшы верш нумара "О дай мне сил страданье удержать" належыць сябру творчага аб'яднання Міхаілу Сотнікаву. Варта адзначыць і вясновы дзіцячы вершык "Кораблик" Ірыны Цвіркоўскай, і верш Яўгена Вермута, тэматыка якога адпавядае псеўданіму паэта. Запамінальнымі з'яўляюцца сутнасныя радкі, дзе аўтары лаканічна кажуць пра вельмі істотнае для сябе: "Говори со мной на равных, // Не жалей, прошу, меня, / / Что на поле этом бранном // Я остался без коня", "Чтоб не упасть, держи ровнее спину", "Помни, что ты очень много значишь // Для тебе позволившего жить".

Гэтаксама можна вылучыць і асобныя радкі з верлібраў М. Прохар, якія ператтвараюцца ў выдатныя карацелькі:

*Мой старый дом*
*учил смотреть на мир*
*сквозь вымытые*
*мамой стекла…*

*То, что мы не сможем*
*объяснить —*
*лучшее, что мы*
*когда-то вспомним…*

У Міколы Шабовіча ёсць некалькі ладных, але не надта арыгінальных вершаў ("Гудят ветра над милой стороной", "Хоть судьбы нам едва ль соединить") і крыху запамінальных радкоў ("Златоглазая фея огня // Или ласки ручей быстротечный?"). Рэжуць вока паэтычныя штампы кшталту "сердца именины", "заоблачные дали", "природы певец", але, магчыма, ужыў іх не аўтар, а перакладчык. Так, у арыгінале паэмы "Эміграцыя" не было банальнага "знать не знал", дый радкі кшталту "Ответ лишь в подсознании остался", "Друзья — всегда друзья, — они добры" былі сфармуляваны Алесем Бадаком больш трапна.

Ужо з другой часткі паэмы А. Бадака гісторыя "обездоленного поэта" пачынае нагадваць гісторыю "обездоленного бедняка" з "Соловьиного сада" А. Блока. Герой, незадаволены сваім ладам жыцця, чароўна сустракаецца з найпрыгажэйшай — і ўжо няздатны займацца звыклай працай. Наспявае расстанне з каханай, і герой вяртаецца ў рэчаіснасць са свету мрой, прычым з "обездоленным поэтом" чытач мае развітацца пасярод шляху, не дазнаўшыся, што чакае героя напрыканцы падарожжа.

У Блока цэльнасць паэмы вынікае з ладнай сістэмы вобразаў: мора і сад, песня і рокат, жыццё рэальнае (цяжкое) і жыццё ў краіне мар (салодкае) супрацьпастаўленыя і адначасова ўзаемазвязаныя. Бадак жа імкнецца дэталізаваць і матываваць сюжэт, раскрыць героя, што, аднак, патрабуе большай канкрэтыкі і "празрыстасці". Абмен рэплікамі між героем і прыгажуняй выяўляе прагматызм і справавітасць жанчыны, якая жадае, каб паэт пакутліва змяняўся (у які бок і навошта — незразумела). Герой не мож пісаць, бо душа зрабілася "довольною и сытой", але цьмяных намёкаў на штосьці сацыяльна-эканамічнае недастаткова, каб чытач усвядоміў праблему. "Эміграцыі" відавочна бракуе зграбнасці і яснасці "Салаўінага саду": часам недагаворана, часам крыху расцягнута, часам зашмат "перьев", "пыли звездной" і "праха". Мінімум слоў і максімум мастацкай арыгінальнасці — вось адвечны сакрэт добрага верша.

# Рэмейк — падмурак дабрачыннасці

Ягор КОНЕЎ

**У нумары "ЛіМа" за 25 лютага была апублікавана рэцэнзія Дзяніса Марціновіча "Гэта салодкае слова — рэмейк" на маю аповесць "Новыя палескія рабінзоны". Некаторыя аўтарскія заўвагі мне шчыра імпанавалі (напрыклад, наяўнасць у маіх аповесцях уплыву твораў Леаніда Дайнекі). Іншыя пакідаю на сумленні шаноўнага крытыка. Але наогул мне падалося, што варта сказаць яшчэ колькі слоў з нагоды гэтых публікацый, бо, прынамсі, я рашуча не згодны з меркаваннем Д. Марціновіча, быццам стварэнне рэмейкаў — новых версій або інтэрпрэтацый створанага раней — з'яўляецца "другаснай з'явай".**

Прыблізна так я і сам меркаваў яшчэ ў 2003 годзе, калі Саюз кінематаграфістаў і Міністэрства культуры арганізавалі конкурс сцэнарыяў мастацкіх фільмаў. Паколькі энергіі ў мяне тады было процьма, то, вядома, закарцела паўдзельнічаць. Я падумаў, што нацыянальная кінастудыя дзесяцігоддзямі развівала ваенна-партызанскую і калгасна-вытворчую тэматыку, а цяпер, мажліва, прыспеў час для экалагічна-пазнавальнага кіно. Прыгадаўся адзін з нешматлікіх твораў, які спадабаўся мне ў падлеткавым узросце — "Палескія рабінзоны" Янкі Маўра. Яго і наважыўся інсцэніраваць.

Конкурс завяршыўся практычна безвынікова, а сюжэтныя калізіі "палескай рабінзаніяны" па-ранейшаму хвалявалі маю свядомасць, час-почас нагадвалі пра сябе. Мажліва, прычынаю было тое, што я з пятнаццаці гадоў вандраваў па Беларусі (і на байдарках па рэчках, і пешшу з заплечнікам), багата пабачыў прыгожых краявідаў і прыйшоў да высновы, што любоў да нашай зямлі ў дзяцей і падлеткаў варта выхоўваць менавіта на падставе спалучэння карцін маляўнічай прыроды і авантурнага сюжэта. Такім вось чынам, верагодна, і варта ўвасабляць *этнацэнтрызм* у мастацтве.

"Палескія рабінзоны" Маўра і тады, і, вядома, цяпер падаюцца мне даволі прыдатнымі для такой важнай задачы. Я не першы год выкладаю ў Інстытуце журналістыкі і выразна бачу, што частка студэнтаў-першакурснікаў мае цьмянае ўяўленне пра літаратуру перыяду беларускага сацыялізму, а іншая частка ўпэўненая, што ў часы БССР амаль анічога вартага не было створана. На жаль, грэблівае стаўленне да сваёй культурнай спадчыны — з'ява натуральная для фарміравання падлеткавай свядомасці. Бяда ў тым, што, нават скончыўшы ВНУ, многія з гэтых студэнтаў так і захаваюць да сівых валасоў свой падлеткавы нігілізм у дачыненні да многіх здабыткаў беларускай культуры.

Між тым, і ў часы БССР распрацоўваліся сюжэты, якія і цяпер выклікаюць непадробную цікавасць. Я маю на ўвазе не толькі "рабінзонаў" Маўра, але і апісаныя Міхасём Лыньковым прыгоды Міколкі-паравоза, Янкі-парашутыста, смелага ваякі Мішкі і яго слаўных таварышаў ды інш. (пералік можна працягваць!). Пры жаданні Лынькова можна было б асудзіць за тое, што ён пераймае прыгодніцкую манеру Аляксандра Дзюма, а Уладзіміра Караткевіча — што, перайначыўшы, запазычыў сюжэт "Дзікага палявання" ў сэра Конан-Дойла. Дый самога Маўра некалі дакаралі за тое, што, не хаваючыся, "прыпартызаніў" сюжэтную аснову "рабінзонаў" у Даніэля Дэфо. Карацей, спрэс рэмейкі!

Мне ж падаецца, што ў цяперашніх рэаліях слова "рэмейк" можна ўспрымаць за ўхвалу. У сусветнай літаратуры здаўна выпрацавалася каля трох дзясяткаў сюжэтаў — а твораў пішацца куды болей. Па сутнасці, апошнія пяць стагоддзяў літаратары толькі распрацоўваюць (у залежнасці ад таленту, больш ці менш удала) сюжэты антычных і старазапаветных аўтараў. Таму, мне падаецца, наўрад ці можна адшукаць у літаратуры аўтара, які стварае нешта арыгінальнае. Калі такі феномен раптам здарыцца, то гэта азначае, што сам крытык мала кніжак пачытаў. Практычна да ўсялякага твора можна знайсці аналаг. Але хіба тут ёсць падставы для смутку? Аніякім чынам!

Насамрэч займальная літаратура не вышуквае новыя сюжэтныя ходы, але камбінуе ўжо распрацаваныя. (Бліскучы прыклад сярод замежных аўтараў — Барыс Акунін і Джоан Роўлінг, сярод айчынных — Андрэй Федарэнка і Людміла Рублеўская.) Галоўнае — дзеля чаго патрэбныя такія намаганні? Калі трэба лішні раз давесці да ведама чытача адвечныя ісціны, то рэмейк для такой справы — рэч надзвычай карысная. Бо падкрэсліванне сюжэтнай пераемнасці яскрава дэманструе вернасць тым ідэалам, якія першапачаткова закладваліся ў твор класікам. Нездарма Анарэ дэ Бальзак сцвярджаў, што вернасць — падмурак дабрачыннасці.

У выпадку з "Палескімі рабінзонамі" варта чарговы раз падкрэсліць, што павага да прыроды і любоў да Бацькаўшчыны — рысы характару, якія будуць узнагароджаны лёсам. Што ніколі не трэба адчайвацца і схіляць галаву перад выпрабаваннямі. Што сяброўства і ўзаемадапамога здатныя адолець любую навалу і нават катаклізм. Што каварства і злосць могуць трыумфаваць толькі часова, а справядлівасць дачакаецца сваёй пары. Няўжо такая філасофія калі-небудзь састарэе?

Але да сучасных падлеткаў трэба яе даносіць праз характары і калізіі, адэкватныя іх успрыманню. Юным чытачам у пачатку 1930-х падавалася натуральным, што Мірон і Віктар выбіваюць вока мядзведзю, выкалупліваюць чарапаху з панцыра палкай і злупліваюць скуру з гадзюкі. Сучаснаму падлетку такія ўчынкі пададуцца ўжо дзікунскімі. Таму ў сваёй "рэмейкавай" аповесці я выпісаў больш міралюбівых персанажаў, далучыў да "новых палескіх рабінзонаў" дзяўчынку, а ворагамі падлеткаў сталіся ўжо не шкоднікі і дыверсанты, але "чорныя археолагі". Істотна, што філасофскі падмурак класічнага твора захаваўся. А калі так атрымалася, значыць, недарэмнаю была праца над рэмейкам аповесці, якую восемдзесят гадоў таму не называлі рэмейкам толькі з той прычыны, што слоўца такога яшчэ не ведалі крытыкі.

Мне нават падаецца, што калі б такіх культурных рэмейкаў стала болей у нашай культурнай прасторы, то падобная з'ява ўсім пайшла б на карысць. Прыблізна гэтым я кіраваўся чатыры гады таму, калі прапанаваў сцэнарый "Новых палескіх рабінзонаў" на кінастудыю. Аднак супрацоўніца рэдакцыйнага аддзела сказала мне, што "Беларусьфільм" не зацікаўляць сюжэты, дзе падзеі адбываюцца на прыродзе, а не ў горадзе. З цягам часу я зразумеў, што ў той адмове мелася свая заканамернасць. Бо кінастудыя пры поўнай абыякавасці Міністэрства культуры ўзяла курс на стварэнне карцін, якія, здаецца, падабаліся хіба генеральнаму дырэктару. Сёння, ацэньваючы прадукцыю кінавытворчасці за апошнія пяць гадоў, можна спрачацца толькі пра адно: які з тагачасных фільмаў быў зняты найменш бяздарна?

> *Я з пятнаццаці гадоў вандраваў па Беларусі (і на байдарках па рэчках, і пешшу з заплечнікам), багата пабачыў прыгожых краявідаў і прыйшоў да высновы, што любоў да нашай зямлі ў дзяцей і падлеткаў варта выхоўваць менавіта на падставе спалучэння карцін маляўнічай прыроды і авантурнага сюжэта. Такім вось чынам, верагодна, і варта ўвасабляць этнацэнтрызм у мастацтве. "Палескія рабінзоны" Маўра і тады, і, вядома, цяпер падаюцца мне даволі прыдатнымі для такой важнай задачы.*

> *Насамрэч займальная літаратура не вышуквае новыя сюжэтныя ходы, але камбінуе ўжо распрацаваныя. (Бліскучы прыклад сярод замежных аўтараў — Барыс Акунін і Джоан Роўлінг, сярод айчынных — Андрэй Федарэнка і Людміла Рублеўская.) Галоўнае — дзеля чаго патрэбныя такія намаганні? Калі трэба лішні раз давесці да ведама чытача адвечныя ісціны, то рэмейк для такой справы — рэч надзвычай карысная.*

Я і сёння застаюся пры меркаванні, што наш кінематограф мог бы зрабіць значны ўнёсак у тое, каб укараніць нацыянальную ідэю ў грамадскую свядомасць. А тады зрабіў тое, што робяць многія літаратары, чые паслугі засталіся незапатрабаванымі на кінастудыі — пачаў перапісваць сцэнарый у прозу. У выніку атрымаўся твор, якім ганаруся куды болей, чым першапачатковым кінаварыянтам.

Я зусім не выключаю, што калісьці "Рабінзоны" "даплывуць" да беларускага кінаэкрана. Тым болей што двойчы, у 1935-м і ў 1975-м, яны туды траплялі. Прычым першая ж экранізацыя ўжо з'яўлялася своеасаблівым рэмейкам, паколькі сцэнарый істотна адрозніваўся ад літаратурнай першакрыніцы. У фільме дзейнічала мала персанажаў, а вострая фабула наогул адсутнічала. "Хімік" Віктар і "натураліст" Мірон траплялі на востраў, паколькі палявалі на вужаку, каб потым здаць у школьны "чырвоны куток". На выспе хлопцы трызнілі сюррэалістычнымі снамі: кожная травінка ім падавалася памерам з бервяно, а нейкая жабка нагадвала кракадзіла. Потым да "рабінзонаў" прыходзіў мядзведзь, ад якога яны адбіліся хімічным пакетам, а на "вялікую зямлю" дзяцей вывозіў на лодцы добры ляснік.

Другая экранізацыя называлася "Неадкрытыя астравы" і таксама ўяўляла сабой рэмейк па ўскосных матывах аповесці Маўра. У гэтым фільме, знятым Леанідам Мартынюком паводле сцэнарыя Канстанціна Губарэвіча, персанажы, якіх завуць Дзіма і Алег, трапляюць на выспу сярод азёр у выніку няўдалага рыбнага лову. Іхнімі ворагамі аказваюцца браканьеры, якія палююць на баброў. "Рабінзоны" фатаграфуюць мярзотнікаў ды "здаюць" іх разам з рэчыўнымі доказамі ўчастковаму міліцыянеру, які прылятае на верталёце.

Як бачым, змест "Палескіх рабінзонаў" аж змушае да стварэння рэмейкаў. Асабіста мне сёння не надта верыцца, што ў бліжэйшыя гады "Беларусьфільм" наогул зможа ствараць якасныя карціны. Аднак гэта не азначае, што трэба адмовіцца ад надзеі перайсці з "залатой эпохі" беларускага кінамастацтва ў "сярэбраную". І калі праз гадоў дзесяць-дваццаць хтосьці нават экранізуе "Палескіх рабінзонаў", то аніяк не зможа пазбысца рэмінісцэнтнасці ў драматургіі ды рэжысуры. Галоўнае ж застанецца нязменным. Мастацкі зварот да таго, каб шанаваць някідкую, але непаўторна маляўнічую прыроду нашага краю, адкрываць не толькі новыя астравы, але і новыя рысы сваёй душы, выхоўваць у сабе не толькі "экалагічнае мысленне", але і станоўчыя рысы характару — усё гэта будзе важным для дзяцей і падлеткаў яшчэ шмат-шмат гадоў. І калі такога эфекту можна дамагчыся з дапамогаю рэмейку, значыць, гэта насамрэч не горшы са шляхоў.

## Летапіс пошукаў

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

**Выдавецтва "Беларуская навука" выпусціла кнігу "На шляху да высокага неба. Жыццёвы і творчы шлях Міколы Трухана".**




З'яўленне кніжнай навінкі пра беларускі тэатр — падзея. Бо літаратура на гэтую тэматыку выходзіць рэдка, несістэматычна і зазвычай смешнымі тыражамі. Між іншым, нягледзячы на прагрэс і найноўшыя тэхналогіі, тэкст па-ранейшаму застаецца галоўным сродкам захавання інфармацыі пра тэатральнае відовішча.

Бадай што кожны тэатральны эксперымент — ці то саўндраму "Вяселле" Уладзіміра Панкова ў Купалаўскім тэатры, ці то пластычныя спектаклі Яўгена Карняга — сёння так ці інакш звязваюць са студыйным рухам канца 80-х — пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя: праводзяць паралелі, шукаюць вытокі. Параўноўваць проста — большасць сённяшніх тэатразнаўцаў бачыла колішнія мастацкія эксперыменты на свае вочы. Але блізкая гісторыя гэтага надзвычай плённага для беларускага тэатральнага працэсу перыяду пакуль што зафіксавана пераважна ў выпадковых артыкулах перыядычнага друку таго часу і рэдкіх навуковых працах. І з'яўленне летапісу часткі гэтай блізкай гісторыі абнадзейвае.

Зборнік рэцэнзій, тэатральных аглядаў, артыкулаў, успамінаў, фотаздымкаў, дакументаў "На шляху да высокага неба. Жыццёвы і творчы шлях Міколы Трухана" — гэта не проста дэталёвы партрэт выбітнага беларускага акцёра і рэжысёра, гэта погляд на эпоху эксперыментаў праз адну з асоб, якая іх стварала.

Фактычна, кніга — гэта асабісты архіў Міколы Трухана, апрацаваны ўкладальнікам, удавой рэжысёра Сафіяй Русак. Зборнік складзены з чатырох раздзелаў: успаміны пра Міколу Трухана; рэцэнзіі, тэатральныя агляды на яго спектаклі, а таксама даследаванні для навуковых канферэнцый; артыкулы і інтэрв'ю; матэрыялы з фестываляў і гастроляў. Сярод аўтараў тэкстаў — Рычард Смольскі, Анатоль Сабалеўскі, Таццяна Катовіч, Тамара Гаробчанка, Віталь Баркоўскі, Святлана Акружная, Жана Лашкевіч, Людміла Лявонава ды іншыя. Матэрыялы пададзены без абагульненняў і каментарыяў, у храналагічным парадку: толькі дакументальныя сведчанні, роздумы пра творчасць і асобу творцы, гутаркі, — усё, што было напісана і надрукавана пры жыцці Мікалая Мікалаевіча, па "гарачых слядах" прэм'ер і паказаў, і пасля яго раптоўнай смерці…

Мікола Трухан — стваральнік унікальнага тэатра "Дзе-Я?". Крэдам гэтага калектыву з шматсэнсоўнай назвай былі пошукі адказаў на пытанні: "Дзе я?" і "Хто я?". Кніга "На шляху да высокага неба. Жыццёвы і творчы шлях Міколы Трухана" ставіць перад чытачом пытанне — "Хто Ён?" — і не пакідае яго без адказу.

**Сучасны літаратурны працэс у Беларусі — з’ява цікавая і шматгранная. У ім актыўна прымаюць удзел некалькі пакаленняў мастакоў слова. Імёны лепшых з іх вядомы далёка за межамі нашай краіны. Але побач з мастацкай сталасцю і глыбокім разуменнем жыцця абавязкова павінен адчувацца бурапенны ўзлёт маладосці. Менавіта ў маладых мы маем магчымасць убачыць і свежасць пачуццяў, і адлюстраванне сучаснага светапогляду новым пакаленнем паэтаў і празаікаў, за якімі — наша літаратурная будучыня. Вядома, што сапраўдным талентам, як нікому больш, патрэбна дапамога. Менавіта таму Інстытут журналістыкі заснаваў Першы рэспубліканскі конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў “Брамамар”. У ім прынялі ўдзел больш як 170 канкурсантаў з розных вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Прайшлі 2 туры і фінал. І цяпер можна з упэўненасцю сказаць — конкурс атрымаўся. Літаратурную мару студэнтаў краіны ажыццявіла студэнцкая лабараторыя “Крытык”. Вось ужо праўда, студэнты зрабілі конкурс для студэнтаў. Ён пацвердзіў сваю жыццяздольнасць. Дэмакратычныя ўмовы ўдзелу, прафесійнае журы, падтрымка вядучых СМІ, арыгінальныя дыпломы і статуэткі “Гран-пры”. Усё гэта адбылося ўпершыню, але мы крочым далей і ўжо вырашана, што на базе Інстытута журналістыкі конкурс будзе праходзіць кожны год. Сёння на старонках “ЛіМа” вы маеце магчымасць прачытаць творы нашых пераможцаў — прадстаўнікоў розных ВНУ рэспублікі. Павел Шаламіцкі пацвярджае меркаванне, што самыя лепшыя “лірыкі” — гэта “фізікі”. Алесь Мойскі падтрымаў імідж БДПУ імя М. Танка менавіта тым, што тут вучацца не толькі будучыя педагогі, але і таленавітыя літаратары. Студэнткі журфака Алена Цішэўская і Ірына Карэліна ўразілі дзявочым лірызмам і вытанчанасцю пачуццяў. Спадзяёмся, што для кожнага з іх конкурс “Брамамар” адчыніў асабісты шлях у літаратуру. Надышоў час, калі мары ажыццяўляюцца. І мы з аптымізмам глядзім у нашу літаратурную будучыню.**

**Сяргей ДУБОВІК,**
**дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ**



Ірына Карэліна

## Лірыка

### *Тры часы маёй зімы*

### І. Мінулае

### Дваццатая зіма

*Дваццатая зіма — memento mori.*
*Свавольны час бязлітасна ляціць.*
*А памятаеш?*
*Ноч. Фіялкі. Зоры,*
*Як быццам залатое канфеці.*

*Зямля пад шызым полагам нябёсаў,*
*Мінорная танальнасць ціцшыні…*
*І месяц сакавітым абрыкосам*
*Саспелы ў недасяжнай вышыні.*

*…вібрацыі жыцця, кахання, лёсу,*
*здаецца, адчуваліся мацней…*
*Па Арыядны*
*пуцяводнай лёсцы*
*У лабірынце травеньскіх начэй*
*Блукалі да бурштынавых світанкаў,*
*Узрушаныя водарам вясны.*
*А потым —*
*дзедаў чай пілі на ганку,*
*Парэчкава-мелісавы, густы…*

*Дваццатая зіма —*
*memento mori.*
*Мой час цячэ*
*скрозь пальцы, як вада.*
*Мінулае не вернецца ніколі.*
*Не вернецца ні-ко-лі…*
*А шкада.*

### ІІ. Цяперашняе

### Крочым

*Крочым. У нявеплівую вечнасць.*
*На вачах згарае дзень за днём.*
*Снежань мае хрыплы барытон —*
*Ён спявае рэквіем па леце*
*У змяркальна-матавай сінечы.*

*Падаем. З разгойданых арэляў*
*Будняў, у якіх зашмат хлусні,*
*(Столькі, колькі нават не прысніш),*
*Будняў, праз якія мы сшалелі,*
*Бо спыніцца страцілі надзею…*

*Рухаемся. У напрамку веры —*
*Толькі не біблейскай, а сваёй.*
*І маўчым, знямелыя хлуснёй,*
*Кожны — з асабістаю хімерай…*
*На заходзе хрысціянскай эры.*

### ІІІ. Будучае

### Дыялог

*— Снежыць колерам індыга.*
*— А давай адсюль — у Рыгу!*
*Там бясконцасць Даўгавы і мастоў…*
*— …цераз край слата і лівні*
*поўняць Рыжскія залівы...*
*— …дождж звініць па бруках,*
*быццам камертон.*
*Там скрыпач ля Шведскай брамы*
*Усё наладжвае актавы…*
*— …атрымоўваецца толькі ля бемоль.*
*— Закаханыя ў завулку*
*Пра любоў — нервова-хуткa…*
*— …пад надзейнай парасонавай бранёй.*
*— Там гатычныя саборы*
*Спічаком кранаюць зоры…*
*— …і у горадзе — гатычная смуга.*
*— Па Пятроўскім Віестуры*
*гараджане шпацыруюць…*
*— …а на тварах — невымоўная туга.*
*Снежыць. Ведаеш… Маркотна.*
*Неба — плямамі скрозь вокны…*
*Я чакаю, я чакаю сакавік…*
*— Досыць плакацца бязмэтна!*
*Вось — узятыя білеты.*
*На трыццатае.*
*Да Рыгі.*
*Наш цягнік.*

---



Павел Шаламіцкі

### Кабылы белыя

*Кабылы белыя —*
*банальныя,*
*з крыламі, —*
*прыносяць*
*небу гэтаму*
*паэтаў*
*кшталту ўсялякага:*
*празаікаў, лірыкаў,*
*ідэйных — і практыкаў,*
*дэмагогаў і сама-*
*дык-*
*татараў.*
*А нам тут, на зямлі,*
*на слізкае глебе,*
*у слотнай[1] смузе[2]*
*і едкім смуродзе,*
*на ўсіх паветра*
*нам*
*нестае:*
*стаім; стаім.*
*Стаім, пільнуем[3]*
*бурбалкі паветра,*
*глытаем іх,*
*рыбы,*
*ратамі.*
*Графаманім і,*
*божа! — наўкол —*
*графаманія,*
*каракулім[4] дзюбнямі,*
*тэксту небяспечнымі:*
*хтосьці — дзвюма,*
*іншы —*
*лабірынтамі стромкімі.*
*Нямаека жэстаў*
*гожых ды*
*вытанчаных:*
*якія там жэсты,*
*як тут, халера,*
*мець вытанчанасць?! —*
*калі дзюбні з сучкамі,*
*сучкатыя дзюбні з вузламі*
*бралі[5] —*
*у рукі залатыя? — ха! —*
*ў крывыя рукі з пазалотай,*
*якую дралі пазалетась*
*ад вялікае любові[6]*
*на храмаў купалы*
*дзяцей рабоў багоў*
*хрысці- — і не вельмі — -янскіх…*
*Рытму і рыфмы заўжды*
*нам бракуе*
*змазкі для вершаў,*
*і шурпацяць язык,*
*і драпаюць дзёслы,*
*сухія*
*словы*
*рыпяць*
*між зубамі*
*на-*
*туж-*
*на*
*вось*
*так:*

### 1. За вялікімі барамі

*За вялікімі барамі,*
*за глыбокімі вадамі[7],*
*за шматбітнымі*
*PGP-ключамі*
*веды —*
*найпершае ліха маралі.*
*Тэхнасвет — дзіцячая цацка,*
*лабірынт[8] навырост.*
*Залаты[9] молат*
*ужо дарослага бога*
*грымнуў аб глебу*
*пад нагамі*
*кволых чалавекаў.*

* * *

*Заўчора ўзляцелі[10] —*
*мы збеглі*
*у вырай сабачы,*
*на слой сёмы аблочча;*
*а сёння —*
*да д’ябла пайшло*
*астатняе ўсё.*
*Цмокавы лапы тытанам*
*рэжуць, расхінаюць*
*густы[11] сусветны смог.*
*Крылле цяжка*
*штурхае наперад абгарэлы жывот.*

* * *

*Сканаў*
*Пілот*
*(уразлівасць цела —*
*дэміурга дурота)*
*бензіну — паўчопу.*
*Грымуар буркоча:*
*самому не ўзняцца, —*
*а ён з кніг тых,*
*што не падмануць.*
*Непрытомны[12] шэпат Зямлі:*
*нежывая, арганіка шыпіць*
*на рэкі — а тыя кіпяць, —*
*крыўляецца*
*сплаўленымі*
*алмазнымі драбінкамі*
*каліcьці гнуткіх і пругкіх ліянаў.*

* * *

*І толькі зверху,*
*з па-над хмараў*
*металічны рогат —*
*бы неўміручых смех*
*(хто не жывы, той не памрэ):*
*— Атмасфера, ха-ха-ха!*
*ты мая ўся! —*
*да золку гэтага*
*ці да ранку заўтра*
*(калі рухавік*
*попелам не*
*задыхнецца).*
*Свет мой, сусвеце,*
*ты — мой назаўжды,*
*а я —*
*апошняя злая*
*мроя твая.*

### 2. Ці помніш ты

*Ці помніш ты,*
*як мы былі,*
*як мы былі*
*і быў*
*той час дажджоў?*
*Як сам-адзін,*
*як я ішоў,*
*як я ішоў,*
*блукалі мы.*
*Ці помніш ты:*
*бадзяліся па сцежках*
*і таптлі мы асфальт,*
*збілі з тропу*
*мы свой лёс —*
*заткнулі глытку[13]*
*чаравікам.*
*І двое сцерлі ўшчэнт*
*падэшвы ступняў*
*і светам гэтым — сеткавіцу[14].*
*А зараз і цяпер*
*мы ходзім-цягнемся-стаім*
*на клычанай падшэўцы*
*тутэйшае прасторы.*
*Ці помніш ты…*
*а ці хочаш ты —*
*помніць?!*
*Ці здолеюць*
*пырскі дажджу —*
*дзіркі павeтра —*
*змаўчаць[15],*
*не на-га-даць?!*
*Тады і там*
*ты станеш*
*догматам*
*новае веры,*
*безумоўна шалёным[16],*
*прарокам і знічам[17],*
*урэшце — рэлігіяй,*
*старою, як рэптыліі,*
*звар’яцелаю[18] рэліквіяй,*
*брамаю*
*ў сіняга[19]*
*полымя[20] пекла,*
*пекла*
*да гары нагамі,*
*пекла*
*да гары нагамі,*
*пекла*
*да гары нагамі,*
*сіняга полымя пекла.*

---

[1] Пункт № 5: “Слата” (слотны).
[2] Пункт № 2: “Дым/смуга”.
[3] Пункт № 4: “Брама/брамнік/вартавы/вартаўнік/вартаваць” (пільнаваць — сцерагчы — вартаваць).
[4] Пункт № 3: “Пляма” (каракулім — каракуліць — каракуля — пляма).
[5] Пункт № 1: “Браць/узяты”.
[6] Пункт № 6: “Любоў”.
[7] Пункт № 4: «Дождж/кроплі/вада».
[8] Пункт № 3: «Павуцінне/лабірынт».
[9] Пункт № 2: «Залаты».
[10] Пункт № 1: «Палёт/ляцець» (ўзляцець).
[11] Пункт № 5: “Густы”.
[12] Пункт № 6: “Помніць/памяць” (непрытомны — быў вынікам страты прытомнасьці, страты памяці).
[13] Пункт № 5: “Маўчаць” (заткнуць глытку — прымусіць маўчаць).
[14] Пункт № 6: “Вочы/глядзець” (сеткавіца — частка вока).
[15] Пункт № 5: “Маўчаць”.
[16] Пункт № 2: “Шалець/шал/вар’яцтва” (шалёны — шал).
[17] Пункты № 3 і № 4: “Біблейскі/Біблія/святы” і “Пажар/агонь/гарэць/палымнець” (зніч — святы агонь).
[18] Пункт № 2: “Шалець/шал/вар’яцтва” (звар’яцелы — вар’яцтва)
[19] Пункт № 1: “Сіні/сінеча”.
[20] Пункт № 4: “Пажар/агонь/гарэць/палымнець” (полымя — агонь).

# Там, дзе чакаюць

Святлана ДАШКЕВІЧ,
загадчыца літаратурнай
часткі НАДТ імя Якуба Коласа

**Коласаўцы наведалі Мёршчыну, радзіму артысткі Тамары Кабяк. Нагода — юбілейная дата, 535-годдзе вёскі Язна, дзе знаходзіцца сельсавет (бацька Тамары быў першым старшынёй тамтэйшага калгаса), царква (тут хрысцілі будучую актрысу), клуб. У клубе паказалі прэм'ерны спектакль "О-ля-ля!", дзе Тамара Кабяк іграе галоўную ролю. Зала ледзь змясціла ўсіх, хто прыйшоў паглядзець на "артыстку Аркадзеўну". А ўсе ўдзельнікі спектакля адчулі шчырасць і ўдзячнасць вясковага гледача…**

У гэтых мясцінах пачалося захапленне артысткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Тамары Кабяк сцэнічным мастацтвам. "Ну вось, — скажа чытач, — які ж тэатр у глухой вёсачцы?" Не спяшайцеся з высновамі. І ў вёсцы Басянкі, дзе нарадзілася Тамара, быў свой клуб (будынак да гэтага часу захаваўся, толькі ён даўно зачынены). А жывуць тут вельмі цікавыя творчыя людзі. Мікалай Фурс — былы дырэктар клуба — цяпер на пенсіі, але дагэтуль аднавяскоўцы клічуць яго "дырэктар", бо былых культурных работнікаў не бывае. У роднай вёсцы Тамара пачувае сябе сапраўднай гаспадыняй бацькоўскага падворка. Ён поўніцца вясёлымі галасамі толькі летам, калі сям'я з'язджаецца сюды на адпачынак.

А пачыналася ўсё з "Іркуцкай гісторыі" А. Арбузава, якую пяцігадовая Тома пачула па радыё. Радыёпрыёмнік прынёс бацька. Дарэчы, майстар на ўсе рукі. Дагэтуль у хаце стаяць лаўкі, этажэркі, зэдлікі, зробленыя яго рукамі. У дзяўчынкі нарадзілася мара стаць артысткай, але прызнацца ў гэтым нават самым блізкім людзям яна саромелася. І ўсё ж імкнулася да сваёй мэты. Паступіла ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (курс Уладзіміра Маланкіна). Пасля заканчэння паехала працаваць у Магілёўскі абласны драматычны тэатр. Там сустрэла сваё першае і адзінае каханне. Муж, малады рэжысёр Юрый Лізянгевіч, запрасіў яе ў далёкія вандроўкі па шматлікіх тэатрах вялікай савецкай краіны. Уладзівасток, Чэлябінск, Курган, Іжэўск, Кіеў, Ніжні Ноўгарад — гарады, дзе давялося працаваць, набываючы неацэнны досвед ва ўвасабленні галоўных роляў. Нэлі ("Жорсткія гульні"), Іскра ("Гняздо глушца"), Юлька ("Адпачынак пасля ранення"), Ганна ("Зоркі на ранішнім небе"), Русалка ("Сметнік")… Спіс яе роляў можна доўжыць і доўжыць.

У 1992 годзе ў тэатры імя Якуба Коласа з'явілася вельмі цікавая артыстка: Тамара Кабяк вярнулася на радзіму пасля доўгіх вандровак. Яе дэбют у ролі Машы ("Касатка" А. Талстога) пераканаўча засведчыў: актрыса будзе з поспехам іграць гераінь. Чэхаўскія Алена Андрэеўна з "Дзядзькі Вані", Ранеўская з "Вішнёвага саду", Аркадзіна з "Чайкі", ібсенаўская Фру Альвінг з "Трахоў бацькоў", Марта з "Непаразумення" А. Камю паглыбілі яе разуменне жыцця і прафесіі.

Сёння актрыса шукае фарбы для сваіх новых гераінь. Манефа з "Мудрацоў" паводле А. Астроўскага — характарны персанаж, які вымагае разнастайных штрыхоў для яго ўвасаблення. У ролі Свінні з камедыйнай прыпавесці М. Ладо "Вельмі простая гісторыя" ёй даводзіцца па-дзіцячы кранальна разважаць, ацэньваючы ўчынкі людзей на зямлі і анёлаў на небе, але за яе наіўна-шчырымі рэплікамі раптам бачыш безабаронную істоту, якая ў спадзяваннях на ўзаемныя пачуцці робіць дабро, а што ў адказ?..

Ганна, гераіня Тамары Кабяк у камедыі "О-ля-ля!", каардынуе дзеянні маладых, якія заблыталіся ў сваіх пачуццях. На яе вачах і Жаклін (гаспадыня) і Бернар (гаспадар) спрабуюць знайсці для сябе новую пару. Не назаўсёды, на суткі. "А чым жа гэты ваш Рабэр лепшы за нашага гаспадара?" — пытаецца пакаёўка Ганна ў Жаклін, калі тая з'яўляецца з палюбоўнікам. Такое пытанне яна падрыхтавала і для гаспадара, які прывёў да сябе Брыджыт. Але ўсё не надта проста "разрулідь", калі сустрэчы адбываюцца ў адзін і той жа час, у адным і тым жа месцы, а дакладней, у доме гаспадароў… Толькі Ганна, якая з'яўляецца "ў самы раз", можа ўсё ўладкаваць. Гэтая вострахарактарная камедыйная роля — новае ў творчасці Тамары Кабяк. Менавіта спектакль "О-ля-ля!" абрала яна для свайго юбілейнага вечара, што адбыўся нядаўна на коласаўскай сцэне.

Рыхтуе актрыса таксама бенефісную ролю Аэліты ў спектаклі "Прывабная жанчына з кветкай і вокнамі на поўнач" паводле п'есы Э. Радзінскага. Прэм'ера — у чэрвені.



*На здымку: сцэна са спектакля "О-ля-ля!"*

# Рамантызм супраць... класікі?



Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Сёння ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі — прэм'ера. Новы спектакль, балет "Сільфіда" на музыку Х. Левенсхольда з харэаграфіяй А. Бурнанвіля ў рэдакцыі Э.-М. фон Розен, — плён супрацоўніцтва НАВТ Беларусі з расійскімі майстрамі, знанымі прадстаўнікамі акадэмічнай культуры Санкт-Пецярбурга: балетмайстрам-пастаноўшчыкам, народным артыстам СССР, прафесарам М. Далгушыным і сцэнографам, заслужаным мастаком Расійскай Федэрацыі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. Окуневым. Дырыжор-пастаноўшчык — маэстра нашага тэатра, заслужаны артыст Украіны В. Пласкіна.**

Паглыбленне ў гісторыю развіцця харэаграфічнага мастацтва і спроба прасачыць радавод сённяшняй мінскай пастаноўкі "Сільфіды" выклікала захапляльную размову пра балет, што адбылася ў тэатры напярэдадні прэм'еры. Тут, у Камернай зале імя Л. Александроўскай, планавалася "пратакольная" прэс-канферэнцыя, але атрымалася імправізаваная творчая сустрэча з Мікітам Далгушыным.

У свой час Мікіта Аляксандравіч быў салістам Ленінградскага Малога тэатра оперы і балета, затым шмат гадоў узначальваў кафедру харэаграфіі ў кансерваторыі паўночнай расійскай сталіцы — адну з вядучых харэаграфічных школ свету, дзе будучыя балетмайстры спасцігаюць сваю найскладанную прафесію праз вывучэнне сімфанічных партытур, праз творчы кантакт са студэнтамі-кампазітарамі, праз асваенне "уласным целам" тэхнікі старадаўніх танцаў. Але не толькі высокая прафесійная эрудыцыя, багаты ўласны практычны досвед і неацэнныя стасункі з многімі выдатнымі майстрамі балета паспрыялі запрашэнню М. Далгушына ў Мінск на пастаноўку чарговай прэм'еры. Наш госць аказаўся ўнікальным "носьбітам" — захавальнікам традыцыі ўвасаблення легендарнай "Сільфіды". Таго самага твора, які ў 1836 г. упрыгожыў рэпертуар Дацкага каралеўскага балета і дзякуючы некальким пакаленням выканаўцаў захаваўся да нашых дзён.

"Адметнасць "Сільфіды" ў тым, што гэты твор пазначыў пачатак рамантычнага балета — цэлага этапу жыцця тэатральнага мастацтва, — расказвае М. Далгушын. — Урэшце рамантызм "пераплавіўся" ў той класічны від мастацтва, які заняў вядучае становішча ў свеце балета да нашых дзён. Аднак сёння класічны балет перажывае, я сказаў бы, нейкі бум спартывізацыі. Ён робіцца павярхоўным, насычаецца тэхнічнымі элементамі, больш уласцівымі спорту ці акрабатыцы, чым танцу. Рамантычны балет у пэўным сэнсе супрацьстаіць гэтаму і вяртае нас у бок змястоўнасці. "Сільфіда", якая ўпершыню ўбачыла свет у 1832 г. з музыкай Ж. Шнейцгофера, была пастаўлена ў Парыжы балетмайстрам-італьянцам Ф. Тальёні. Казачны сюжэт паводле шатландскіх легенд усхпрымаўся як сугучны рамантызму матыў разладу між марай і рэальнасцю, а сам танец, які адцясніў з галоўнай ролі традыцыйную пантаміму, здаваўся цудам. Выканаўца партыі Сільфіды Марыя Тальёні, дачка балетмайстра, упершыню прайшла па сцэне на дыбачках, што надавала вобразу асаблівую пачуццёвасць. Уражаны мастацкай дасканаласцю твора харэограф А. Бурнанвіль вырашыў перанесці "Сільфіду" на сваю радзіму, у Данію. Ён узнавіў драматургічную канву арыгінала, захаваў стылістыку танца, а музыку "наспяваў" тамтэйшаму скрыпачу Х. Левенсхольду. Той італьянскі балет, што нарадзіўся на парыжскай сцэне, як і расійскія пастаноўкі, адышоў у нябыт. А спектакль Бурнанвіля выжыў, бо Данія доўгі час існавала за "жалезнай заслонай", не адчуваючы зменлівых уплываў на сваё мастацтва. У 1975 г. "Сільфіда" вярнулася ў Расію: дацкі балетмайстар Эльза-Марыян фон Розен, у свой час выканаўца Сільфіды, паставіла гэты твор на ленінградскай сцэне, і мне давялося танцаваць партыю Джэймса. Я запомніў усе тонкасці, "ручаінкі ды пагоркі" пастаноўкі, што дапамагло рэанімаваць легендарны спектакль на беларускай сцэне. (Ён адрозны ад "Сільфіды", якая ішла ў Мінску на пачатку 1980-х у рэканструкцыі піцерскага маэстра Алега Вінаградава ўжо тым, што ўвага артыстаў звернутая не толькі на засваенне тэхнічна складанай стылістыкі рамантычнага балета, але і на раскрыццё псіхалогіі персанажаў, стварэнне жывых праніклівых вобразаў. — С. Б.). Рамантычны балет напоўнены подыхам жывых пачуццяў, суперажываннем, роздумам, стасункамі праз выразны жэст: у артыстаў — ні хвіліны "нічэгонеделанья" на сцэне. Тут ёсць і свая актуальная філасофія: не чапай тое, што табе не належыць, не разбурай гармонію, не парушай — дзеля шчасця. Трагічны фінал балета перадвызначаны хоць бы ўчынкам Джэймса, які, захапіўшыся дачкой ветру, кінуў сваю нарачоную... Мне прыемна працаваць у асяроддзі беларускіх артыстаў, бо яны, у адрозненне ад многіх "сытых" і самазадаволеных калег свайго пакалення, знаходзяцца ў стане творчага голаду: імкнення ўдасканаліцца, штосьці пазнаць і стварыць, рушыць на новы ўзровень. Не рухаецца ў творчасці — доля прымітыўных людзей, якія нічога вартага не зробяць ні для сабе, ні для публікі, ні для сваёй краіны".

*На здымку: народны артыст СССР, прафесар Мікіта Далгушын.*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Аляксандра Куўшыннікава

Тыдзень французскага кіно ладзяць з 21 па 25 сакавіка Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і мінскі кінатэатр "Цэнтральны". Будзе дэманстравацца пяць мастацкіх стужак, створаных у 2006 — 2008 гадах. У іх ліку — біяграфічная драма "Жан дэ Лафантэн — выклік лёсу" (рэжысёр Даніэль Вінь). У рэчышчы парыжскіх падзей 1661 года паўстае спрадвечны антаганізм мастацтва і ўлады, раскрываецца вобраз паэта, які насмеліўся ўзнесці мастацтва вышэй за караля і нават ва ўмовах невыноснай галечы не адцураўся ад сваіх перакананняў, працягваў змагацца, назіраць, пацяшацца, пісаць байкі ды памфлеты, выкрываючы дэспатычны рэжым.

Персанальная выстаўка брэсцкай мастачкі Тамары Дзянісавай адкрылася ў горадзе над Бугам. Яе жывапіс прываблівае мажорнай каляровай палітрай і дзёрзкасцю мазка. Ураджэнка Гомельшчыны, І. Дзянісава вучылася ў 1970-я гады ва Украіне — на жывапісным аддзяленні Адэскага дзяржаўнага мастацкага інстытута імя М. Грэкава; у 1991-м скончыла мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педінстытута імя С. Кірава. Больш як 30 гадоў удзельнічае ў розных выстаўках: ад абласных да міжнародных, прычым адзінаццаць персанальных адбыліся ў Беларусі, Германіі, Польшчы, ЗША, а да пленэраў і выставак, якія адбываюцца ў каларытных польскіх гарадках Казімеж-Дольны, Пулавы, Кельцы, Бяла-Падляска ды інш., яна спрычыняецца штогод. Заўсёднікам мінскіх вернісажаў наўрад ці знаёмая творчасць Т. Дзянісавай. Затое многія яе акварэлі ды жывапісныя пейзажы, нацюрморты, работы на рэлігійныя тэмы ёсць у прыватных калекцыянераў Германіі, ЗША, Кітая, Польшчы, Японіі.



*На здымку: брэсцкая мастачка Тамара Дзянісава.*

Аргенцінскія жарсці, мелодыі палкіх пачуццяў, неўтаймоўныя памкненні маладых закаханых душ, горыч расчаравання... Усё гэта прэзентуюць гледачам стваральнікі спектакля "Тэкілакаханне" — прэм'еры Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Пластычную фантазію паводле апавядання Хасэ Луіса Борхеса ўвасобілі рэжысёр-пастаноўшчык Павел Адамчыкаў, мастак Аляксандр Балдакоў, якія разам з артыстамі тэатра імкнуліся да яркага і пераканаўчага спалучэння модных тэндэнцый ды вечнай класікі.

# Адкрыццё terra incognita

**Амаль год таму, у маі 2010-га, пры грамадскім аб'яднанні "Беларускі саюз музычных дзеячаў" па ініцыятыве прадстаўнікоў прафесійнай творчай моладзі была створана Асацыяцыя маладых беларускіх кампазітараў. Актыў новай асацыяцыі адразу ўзяў курс на стварэнне эфектыўнай арганізацыйнай пляцоўкі, якая б аб'ядноўвала намаганні розных творчых суполак і асоб Беларусі ды замежжа на шляху да рэалізацыі разнастайных маладзевых праектаў у галіне сучаснага музычнага мастацва.**
**І трэба сказаць, што рух у гэтым няпростым напрамку пачынае прыносіць першы плён.**

**Васіль СІМАНЕНКА**

Сёлета сумеснымі намаганнямі Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў БСМД, Беларускага саюза кампазітараў, берлінскай творчай суполкі "Klangnetz e.V.", салістаў Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь, студэнтаў ды выкладчыкаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Зале БСК быў арганізаваны канцэрт пад назвай "Terra Incognita II". У бліскучым выкананні лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Яўгена Шымановіча, Максіма Круглага, Кацярыны Нікалаевай, Васіля Нетука прагучалі творы для кларнета і фартэпіяна маладых аўтараў з Беларусі ды Нямеччыны: Канстанціна Яськова, Аляксандры Даньшовай, Вольгі Падгайскай, Кацярыны Шымановіч, Арне Зандэрса, Сары Нямцовай, Себасцьяна Элікоўскага-Вінклера. Прадмовы непасрэдных арганізатараў канцэрта, Кацярыны Шымановіч і Канстанціна Яськова, а таксама партнёра і кіраўніка праекта з нямецкага боку — кампазітара Себасцьяна Элікоўскага-Вінклера, які ў тыя дні афіцыйна наведваў Мінск у якасці прадстаўніка аб'яднання "Klangnetz e.V.", адразу стварылі атмасферу добразычлівасці і сяброўства. Шчыраму творчаму дыялогу паміж аўтарамі, выканаўцамі і публікай спрыялі трапныя прафесійныя каментарыі вядучай канцэрта, музыказнаўцы Наталлі Ганул, якая, з'яўляючыся сакратаром БСК, членам БСМД ды добрым сябрам Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў, таксама адыграла значную ролю ў арганізацыі мерапрыемства.

Адзначым, што згаданы вечар — ужо другі з цыкла канцэртаў доўгатэрміновага нямецка-беларускага праекта "Terra Incognita". Назва — у перакладзе "невядомая зямля" — была запрапанавана нямецкімі кампазітарамі, калі яшчэ ў сакавіку мінулага года аб'яднанне "Klangnetz e.V." разам з маладымі беларускімі аўтарамі ладзілі першы супольны канцэрт у Берліне.



Тады на суд берлінскіх слухачоў у касцёле Святога Матфея, што на плошчы Пацдамер ля Берлінскай філармоніі, былі прадстаўлены п'есы для скрыпкі ды фартэпіяна кампазітараў з Беларусі і Нямеччыны ў выкананні камернага дуэта з Прагі. Зразумела, што статус "Terra Incognita" на карце сучаснага моладзевага музычнага мастацтва ў роўнай ступені пасуе як Беларусі, калі гаворка ідзе пра нямецкіх аматараў акадэмічнай музыкі, так і Германіі, калі гаварыць пра публіку беларускую. А таму галоўныя куратары праекта, кампазітары Себасцьян Элікоўскі-Вінклер і Кацярына Шымановіч, ставяць мэтаю як мага больш шырокае знаёмства слухачоў абедзвюх краін з мастацкай дзейнасцю маладых творцаў: прадстаўнікоў "Klangnetz e.V." з аднаго боку і АМБК Беларускага саюза музычных дзеяча з другога. Ужо сёння актыўна распрацоўваюцца сумесныя планы на будучыню, якія маюць ажыццявіцца ў новым вялікім праекце "Два берагі адной ракі". У ім будуць задзейнічаныя два ансамблі сучаснай музыкі — беларускі "Albaruthenia" пад кіраўніцтвам Яўгена Шымановіча і нямецкі "Adapter" на чале з Маціасам Энглерам, а таксама маладыя кампазітары, музыказнаўцы абедзвюх краін. У межах праекта на восень бягучага года і на пачатак наступнага ў Мінску, Гомелі, Гродне і Берліне запланаваны шэраг канцэртаў, майстар-класаў і лекцый па сучаснай музыцы.

Спадзяёмся, што гэтыя і шмат іншых разнастайных планаў АМБК паспяхова рэалізуюцца, бо на баку кампазітараў гэтага згуртавання — энергія маладосці, актыўная жыццёвая пазіцыя, свежае творчае светаўспрыманне і, самае галоўнае, шчырае жаданне плённа развіваць музычную культуру сваёй роднай краіны.

***На здымку: куратары "Terra Incognita" Кацярына Шымановіч і Себасцьян Элікоўскі-Вінклер падчас абмеркавання новага праекта.***

## Нашы юбіляры



**Кім Дзмітрыевіч ЦЕСАКОЎ** — кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі, лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя Васіля Віткі.



**Галіна Канстанцінаўна ГАРЭЛАВА** — кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.



**Вадзім Лявонцьевіч ЯКАНЮК** — загадчык кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, доктар педагагічных навук, прафесар, член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў.



**Ганна Станіславаўна ПОЛЕСАВА** — выкладчык Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнік ансамбля цымбалістаў "Залатая струна" — лаўрэата шматлікіх міжнародных конкурсаў.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: ***(017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.***

# Заставацца зацікаўленай

**"Я не жить тороплюсь — тороплюсь много сделать…"**
**Так піша пра сябе Ірына Карнаухава — паэтка, член Беларускага Саюза музычных дзеячаў, кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца" Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Арганізатарскі талент, які выяўляецца ва ўменні захапіць сваёй ідэяй, згуртаваць людзей дзеля агульнай мэты і ўвесь час натхняць іх на новыя здзяйсненні, у спалучэнні з адкрытасцю і дабрынёй — гэта адчуваеш у ёй адразу.**
**Праца з творчымі людзьмі, вядома ж, заўсёды няпростая. Але Ірына знаходзіць падыход да кожнага з удзельнікаў клуба, створанага ёю ў 2002 годзе. З таго часу яго склад павялічыўся амаль да 140 чалавек. Як гэтай маленькай, далікатнай жанчыне ўдаецца кіраваць такім шматлікім калектывам, вырашаючы часам зусім не жаночыя задачы, і заставацца пры гэтым марай усіх паэтаў, застаецца загадкай.**

**Наталля ВАСІЛЁНАК**

Дзесяць гадоў да пераходу ў Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці Ірына Аляксандраўна працавала дырэктарам Міханавіцкай школы мастацтваў у Мінскім раёне. Пачаўшы працу з пасады загадчыка аддзела аматарскай творчасці, пачала паралельна займацца стварэннем клуба, які б аб'яднаў аматараў паэзіі і музыкі Міншчыны. Спачатку былі простыя пасяджэнні. З цягам часу дзейнасцю клуба зацікавіліся прафесійныя паэты і кампазітары, а да мерапрыемстваў дадаліся выязныя пасяджэнні, штогадовыя справаздачныя канцэрты, прэзентацыі, абласныя конкурсы і інш. Творчыя набыткі ўдзельнікаў клуба выйшлі на старонкі перыядычнага друку, загучалі па Беларускім радыё, афармліся ў штогадовыя паэтычныя і нотныя выданні (Ірына робіць іх сама), песенныя дыскі. Клуб увесь час папаўняецца новымі аўтарамі, але ж самыя першыя аўтары, якія некалі падтрымалі ідэю Ірыны Карнаухавай, і сёння з'яўляюцца яго актыўнымі ўдзельнікамі. У 2006 годзе клуб "Жывіца" за свае творчыя дасягненні быў удастоены звання "народны".

Пра тое, што Ірына Карнаухава — адметная творчая асоба, сведчаць яе ўласныя набыткі. Да шэрагу выданняў пры канцы 2010 года дадаліся зборнікі паэзіі "Следы", дзіцячых вершаў — "Нехочуха", "Шахматная партия" (сумесна з калегай па клубе Галінай Дораш). Разам з удзельнікамі клуба і з прафесійным паэтам Васілём Жуковічам напісала некалькі песень. Ірыну Аляксандраўну цікавіць не толькі песенная творчасць (ва ўласным багажы каля 20 песенных твораў), але і музыка інструментальная. Акрамя таго, наша гераіня з'яўляецца пастаянным арганізатарам ды рэжысёрам выязных і справаздачных канцэртаў клуба. Напоўніцу яе арганізатарскія здольнасці выявіліся ў рэалізацыі новага праекта — духоўна-асветніцкага свята "Калядныя званы", якое прайшло на пачатку года ў г. Маладзечна.

Ірына лічыць сябе шчаслівым чалавекам: у яе два выдатныя сыны, чацвёра ўнукаў, шмат сапраўдных сяброў.



Як яна кажа сама, ёй па жыцці шанцуе на добрых людзей — і ў гэтым шчасце. А яшчэ цвёрда крочыць па жыцці ёй дапамагаюць тры крэда: "калі не я, то хто?", "ставіцца да людзей трэба так, як ты хацеў бы, каб ставіліся да цябе", "заставайся па жыцці зацікаўленым чалавекам"!

Ірына Карнаухава не сумняваецца: нічога няма безразважнага, дзіўнага ў тым, калі чалавек спрабуе штосьці спазнаць і асвоіць, чамусьці навучыцца ў любым узросце. Бо яна сама на сцэну выйшла пасля сарака гадоў, пачала весці канцэрты, спяваць, чытаць вершы. Два гады таму ўстала на ролікі, а яшчэ — атрымала вадзіцельскае пасведчанне.

Яна ўпэўнена: мары здзяйсняюцца, калі ты вельмі гэтага хочаш.

## Слова краязнаўцы



**Віталь Герасіменя з Ганцавіч расказвае пра ролю спецыяльнага інтэрнэт-партала ў распаўсюджванні краязнаўчай інфармацыі:**

— Ганцавіцкаму краязнаўча-інфармацыйнаму парталу ў сучасным выглядзе крыху менш за паўтара года. Раней ён існаваў як дадатак да сайта мясцовага раённага краязнаўчага музея. А з кастрычніка 2009 года партал выправіўся ў самастойнае плаванне.

За гэты адносна непрацяглы тэрмін наш сайт прайшоў шлях свайго ўдасканалення, развіцця, "абрастання" новымі раздзеламі і карыснай інфармацыяй.

Спачатку, калі быць да канца сумленным, інтэрнэт-праект існаваў абы існаваць і не болей. Толькі пазней, прыкладна праз год, прыйшла ідэя распавесці максімальнай колькасці людзей, у першую чаргу мясцоваму насельніцтву, што за дзіўны такі край Ганцаўшчына, чым ён унікальны і непаўторны. Ды і не толькі пра гэта. Асобнай увагі варты і праект у праекце — "Малая краязнаўчая энцыклапедыя", ідэю якой мы падгледзелі ў "Краязнаўчай газеце".

Галоўным паказальнікам для любога інтэрнэт-рэсурсу заўсёды з'яўляецца колькасць унікальных наведвальнікаў. На пачатку самастойнага існавання нашага сайта іх сярэдняя колькасць складала каля 10 наведвальнікаў на дзень, цяпер, у сакавіку 2011-га, іх больш як 100. Рост, як і адносная лічба штодзённых карыстальнікаў, не досыць вялікія, але для сайта рэгіянальнага характару, ды яшчэ краязнаўчага кірунку і пры амаль стапрацэнтным беларускамоўным кантэнце (на жаль, беларуская інтэрнэт-прастора амаль уся рускамоўная) — паказальнікі неблагія. Ну, як кажуць аптымісты, — ёсць куды расці.

Што да папулярызацыі ведаў па краязнаўстве… Вынікі ёсць. Часта даводзілася чуць, часам ад зусім незнаёмых людзей: "Вялікі дзякуй, а мы і не ведалі…", ці так: "Вось якая карысная інфармацыя, так трымаць…" Неаднойчы звярталіся людзі з просьбаю дапамогі ў пошуку інфармацыі пра сваіх родных, з якімі разлучыў час. І ў такіх выпадках імкнёмся хоць чымсьці дапамагчы.

Аўдыторыя сайта расце, расцуць і патрабаванні карыстальнікаў да інфармацыі. Але гэта сённяшні дзень, а заўтра — новыя задачы і новыя магчымасці для іх вырашэння.

## З Віцебска— у Гомель

Чэслава ПАЛУЯН

У пачатку вясны ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі адкрылася выстаўка рарытэтаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея "Масонская калекцыя са збору Вацлава Федаровіча". У экспазіцыі прадстаўлена больш як пяць дзясяткаў масонскіх сімвалаў і знакаў канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя.

Імя Вацлава Федаровіча добра вядома жыхарам Віцебска і аматарам даўніны. Бо менавіта ён у 1880 годзе адкрыў прыватны музей, збор якога быў адным з самых цікавых і багатых у Віцебску. Асаблівае месца ў ім займаў "масонскі аддзел", вядомы далёка за межамі горада і нават краіны. Некаторыя масонскія знакі з калекцыі Вацлава Федаровіча былі апублікаваны ў кнізе "Масонства ў мінулым і сучаснасці" (1915).

## Музейны ўнікат

# Таямніцы кубіка і крыжоў-складняў

**У археалагічнай калекцыі Музея старажытна беларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — знаходкі з усіх куткоў краіны. Кожны прадмет тут мае сваю адметную гісторыю. Аднак сярод многіх экспанатаў ёсць і тыя, што вылучаюцца асаблівай рэдкасцю. Пра іх і пойдзе сёння гаворка.**



Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

### Прадзед нацельных крыжыкаў

Падчас археалагічных раскопак цэлыя крыжы-энкалпіёны або іх фрагменты знаходзяць вельмі рэдка. У Музеі старажытнабеларускай культуры захоўваецца некалькі такіх прадметаў. Таму поўны крыж-энкалпіён, які датуецца XV ст., — сапраўдны рарытэт. Ён быў знойдзены падчас раскопак гарадзішча Лукомль, што ў Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці. "Хутчэй за ўсё гэта выраб мясцовых рамеснікаў", — зазначае дырэктар музея, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука.

Само слова "энкалпіён" з грэчаскай мовы перакладаецца як "на грудзях", бо выраб такі насілі на шыі, на шнурках ці ланцужках. Іншая яго назва — крыж-мошчавік. У падобных ці блізкіх па форме прадметах захоўвалі мошчы, іншыя святыя каштоўнасці. "Традыцыя гэтая зарадзілася яшчэ ў першыя стагоддзі існавання хрысціянства, хутчэй за ўсё ў Візантыі, — расказвае Барыс Андрэевіч. — У той час гэта быў прадмет, што адзначаў сапраўды высокі духоўны сан асобы. Пазней узнікла жаданне мець штосьці падобнае і ў масавым карыстанні, таму ў правінцыях Візантыйскай імперыі, а потым і на тэрыторыях, што ўступалі ў сувязі з Візантыяй, узнікае вытворчасць крыжоў-энкалпіёнаў. Але замест ёмкасцей, у якія ўкладваліся сапраўдныя святыні, размяшчалі выявы святых заступнікаў. Папулярнасць такіх прадметаў у X-XI стст. была вельмі вялікая і праіснавала досыць доўга".

Традыцыя нашэння крыжоў-складняў з часам памяншаецца, потым і цалкам знікае, на змену ім прыходзяць крыжыкі і маленькія абразкі, якія вернікі носяць і сёння. Дарэчы, знакаміты крыж Еўфрасінні Полацкай — таксама крыж-мошчавік. У ім знаходзіліся часці з свяшчэннымі рарытэтамі: часткі Крыжа Гасподня, Труны Маці Боскай, мошчы святых Стэфана, Панцеляймона, кроплі крыві святога Дзмітрыя.



### Гульня для манахаў

Падчас раскопак мінскага замчышча ў культурных пластах, што адносяцца да другой паловы — канца XV ст., быў знойдзены загадкавы прадмет — невялікі касцяны кубік, памерам прыкладна 2х2х2 см. Яго шэсць граняў упрыгожаны схематычна паказанымі евангельскімі сцэнамі. "На карысць думкі, што гэта сцэны з Евангелля, — расказвае Барыс Лазука — сведчыць тое, што некаторыя малюнкі дакладна распазнаюцца, мы можам убачыць сцэны прэабражэння ці ўцёкаў у Егіпет. Да іншых выяў можна толькі прыблізна правадзіць аналогіі".

Натуральна, што ўзнікае пытанне, як і для чаго мог быць створаны такі прадмет? Кубік асацыіруецца з гульнёй, аднак навошта ствараліся евангельскія выявы на такім прадмеце? "Мае сустрэчы з прадстаўнікамі царквы, і манахамі ў тым ліку, даюць ключ да адказу на гэтае пытанне, — разважае Барыс Андрэевіч, — У ліку апошніх — гутарка з манахам Антоніем з манастыра ў вёсцы Малыя Ляды, які таксама пацвердзіў здагадку, што такі кубік мог выкарыстоўвацца для своеасаблівай гульні. І ў гэтым няма адступлення ад канона, строгіх правілаў манаскага жыцця. Кідаючы такі кубік, можна ўбачыць тое ці іншае свята, святога, магчыма, прачытаць малітву ў гонар такога выпадку".

Ёсць меркаванне, што такіх кубікаў першапачаткова было два. Бо ў хрысціянстве існуе 12 вялікіх свят (так званыя дванадзясятыя), час якіх дакладна вызначаны. І існаванне аднаго кубіка з шасцю святамі робіць магчымым існаванне "працягу" на іншым такім жа прадмеце.

***На здымках: крыж-энкалпіён (XV ст.), касцяны кубік (канец XV ст.)***

# Для чытачоў высокага рангу

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

**Знаёмячыся з бібліяграфічным апісаннем бібліятэкі Аляксандра Пушкіна, выдадзеным Б. Л. Мадзалеўскім у 1910 годзе, я звярнуў увагу на кнігу пад нумарам 111. Яе поўная назва "Григорович, И., протоиерей. Переписка пап с Российскими Государями в XVI веке, найденная между рукописями в Римской Барберниевой библиотеке. Издана с переводом актов с латинского на русский язык. В Санкт-Петербурге. При Императорской Академии Наук. 1834".**

Протаіерэй Іван Грыгаровіч — беларускі гісторык, археограф і мовазнавец. Нарадзіўся 6 верасня 1792 года ў мястэчку Прапойск (цяпер — Слаўгарад Магілёўскай вобласці). Пасля заканчэння семінарыі ў 1811 годзе ён стаў выкладчыкам духоўнага вучылішча ў Магілёве, а на летнія вакацыі, як і раней, прыязджаў да бацькі ў Гомель, дзе і сустрэўся з Мікалаем Румянцавым, гаспадаром маёнтка. У семінарыі Іван Грыгаровіч дасканальна вывучыў апублікаваныя да таго часу летапісы і ў размове з Мікалаем Пятровічам здзівіў яго аб'ёмам сваіх ведаў. Таму мецэнат вырашыў прыцягнуць маладога чалавека да працы па пошуку і вывучэнні старажытных рукапісаў.

Каб павысіць кваліфікацыю памочніка, граф накіраваў яго вучыцца за свой рахунак у Пецярбургскую духоўную акадэмію, дзе Грыгаровіч знаходзіўся з 1815 па 1819 год, інтэнсіўна вывучаючы летапісы і іншыя крыніцы, а таксама тэксты старажытных і сярэднявечных аўтараў. Больш таго, у пецярбургскім доме графа Румянцава Грыгаровіч сустракаўся з яркімі навукоўцамі таго часу: мітрапалітам Яўгенам, Якавам Бярэднікавым, Канстанцінам Калайдовічам, Паўлам Строевым і іншымі.

Вярнуўшыся ў Гомель у 1820 годзе, малады навуковец пачаў актыўна вывучаць беларускія архівы. Выяўленыя ім у магілёўскіх і мсціслаўскіх сховішчах дакументы, як духоўнага, так і свецкага зместу, падштурхнулі да думкі стварыць зборнік матэрыялаў па гісторыі Беларусі. Ідэю гэтую граф сустрэў з захапленнем, і цалкам магчыма, што ён паабяцаў выдаць зборнік за свой кошт.

Іван Грыгаровіч спланаваў выданне ў трох частках, якое сам назваў "Белорусский архив древних грамот". Першы том падрыхтаваў у вельмі кароткі тэрмін. Прадмова да "Архива" пазначана 15 жніўня 1823 года.

Але паўсталі цяжкасці праходжання рукапісу праз цэнзуру. Дасланы ў Маскву, том быў дадзены на водгук прафесару Міхаілу Качаноўскаму, які "не змог ухваліць" тры дакументы, змешчаныя ў Архіве. У сувязі з гэтым цэнзурны камітэт вырашыў вярнуць рукапіс выдаўцу. Першым рашэннем Івана Грыгаровіча было напісаць аспрэчанне, але граф Румянцаў зрабіў прасцей: дакументы, што выклікалі незадаволенасць Качаноўскага і камітэта, ён загадаў выключыць са зборніка, а рукапіс пераслаў Аляксею Маліноўскаму з прыпіскай "Прошу приказать напечатать 600 экз. сих грамот". І ўжо 6 красавіка 1824 года, якраз на Вялікдзень, Мікалай Румянцаў пісаў з Масквы Івану Грыгаровічу: "Примите вместо красного яичка, первый отпечатанный лист Архива Белорусских грамот…"

Першы том "Белорусского архива древних грамот", выдадзены Іванам Грыгаровічам у 1824 годзе, — не толькі першы, але і адзін з лепшых (з археаграфічнага пункта гледжання) узораў публікацыі крыніц па гісторыі Беларусі. Што да другой часткі "Белорусского архива…", якая праз некалькі год была ім падрыхтавана, яе выданне зацягнулася. Сродкаў у Івана Іванавіча не аказалася. Граф Румянцаў да таго часу памёр, і матэрыяльнай дапамогі на выданне чакаць не было адкуль.

З пераездам у Пецярбург у 1831 годзе Грыгаровіч узнавіў надзею выдаць другую частку "Белорусского архива…". Каб ажыццявіць задуму, ён выбраў старажытныя дакументы знешнепалітычнага характару, якія яму пакінуў для апрацоўкі Мікалай Румянцаў, і выдаў іх кнігай "Переписка пап с Российскими государями…" У выданні, аб'ёмам у 116 старонак, змешчаны былі пап Лявона X і Клемента VII Вялікаму князю Маскоўскаму Васілю Іванавічу; два лісты вялікага князя Васіля да Клемента VII; ліст кардынала Марона да Вялікага князя Івана Васільевіча (Жахлівага); наказ паслу папы Грыгорыя XIII Рудольфу Кленхену пры ад'ездзе яго ў Маскву; була папы Клемента VIII да цара Фёдара Іванавіча, а таксама шэраг іншых каштоўных гістарычных дакументаў. Спісы з арыгіналаў па просьбе графа Румянцава выканаў навуковец Густаў Штрандман. Іван Іванавіч іх пераклаў, склаў да іх навуковы каментарый з прыцягненнем шматлікіх рэдкіх друкаваных і рукапісных гістарычных крыніц.

Выданне дыпламатычнай перапіскі было разлічана Грыгаровічам на чытачоў самага высокага рангу: праваслаўную і каталіцкую вышэйшую царкоўную іерархію, вялікі дыпламатычны корпус і, вядома, шляхту. З улікам гэтых акалічнасцей Іван Грыгаровіч уключыў у сваю прадмову зварот да магчымых фундатараў работы: "Надеюсь при Божьей помощи представить любителям отечественной истории и вторую часть "Белорусского архива древних грамот" и остаюсь в уверенной надежде, что они помогут мне закончить и то начинание. Тогда буду утешен тем, что хотя и поздно, но успел осуществить мечту, священную для моего сердца".

Няма сумненняў, што Аляксандр Пушкін звярнуў увагу на зварот беларускага протаіерэя Івана Грыгаровіча і, нягледзячы на вялікі кошт гэтага раскошнага выдання, набыў яго для сваёй бібліятэкі.

# Космас, які нас звязвае

Віктар ХУРСІК

**Краязнавец Уладзімір Цэйкін нарадзіўся і вырас на Веткаўшчыне, тут жа працуе ў рэдакцыі раённай газеты.
Яго невялікія брашуркі-аповеды пра вёскі Хальч, Пыхань, Прысно і іншыя паселішчы пазней перараслі ў сур'ёзныя гісторыка-краязнаўчыя даследаванні ў кнізе пра вёску Данілавічы ("Аграфірма імя Лебедзева") і кнізе пра Гомельскі конны завод.
Цяпер аўтар шчыруе над вялікай краязнаўчай працай пра вёску з мілагучнай назвай Радуга. Мы размаўляем з Уладзімірам Уладзіміравічам у яго сядзібе ў вёсцы Хальч пра вечныя каштоўнасці.
Гутарым пра душу, сэнс чалавечага існавання і, канечне ж, пра краязнаўства.**



— Чалавек не ведае, як нарадзіўся, калі і як памрэ. Адлік свайго "я" ён вядзе ад нейкай знакавай падзеі. У раннім дзяцінстве я цяжка захварэў, бабка Пульхер'я нацерла мяне гусіным тлушчам і пасадзіла грэцца каля "буржуйкі". Зразумела, мне, малому, не сядзелася, і я ў выніку атрымаў апёк. З гэтага апёку і вяду адлік майго свядомага жыцця. У тым жа 1950 годзе я захварэў на шкарлятыну і трапіў у раённую бальніцу, якая месцілася ў панскім палацы. Высокая столь, велізарныя вокны і шырокая лесвіца на другі паверх здзівілі мяне: "Цікава, хто жыў у гэтым палацы?" Праз колькі гадоў даведаўся, што палац належаў палкоўніку Шлеферу, затым — дваранін Станевічу, а пазней — княгіні Любамірскай.

**— Атрымліваецца, што краязнаўства ў вас было неабходнасцю, станам душы, калі з маленства вас цікавіла мінуўшчына. Між тым лічыцца, што краязнаўства можна вывучыць па падручніку.**

— Пэўна, можна здаць іспыты па назвах вёсак і ўрочышчаў роднай старонкі. Але можна і не здаць залік па краязнаўстве. Настойлівы прымус у гэтай справе прывядзе да адваротнага выніку. Любоў да радзімы фарміруе асяроддзе, блізкія людзі. У пасляваенным дзяцінстве я, хлопчык-сірата, вельмі хінуўся да жыхара сваёй вёскі Язэпа Церашкова. Былы царскі унтэр-афіцэр, моцны, заможны селянін-уласнік, а потым і калгаснік, усе сельгасработы выконваў умела, прыгожа. Ён быў мудрым, разумным чалавекам. Па вечарах я з замілаваннем слухаў яго аповеды, напоўненыя жыццёвай мудрасцю, нейкай асаблівай сялянскай філасофіяй, і даў сабе слова быць падобным на яго.

**— Гэта значыць, што вы далі слова быць падобным не на нейкага савецкага палітычнага дзеяча, не на члена Палітбюро ЦК, а, па сутнасці, на "ворага" народа?**

— Не шыйце мне антысаветчыну. Так, я хацеў быць падобным на яго і на сваю маці, якая 40 гадоў адпрацавала на свінаферме і была ўзнагароджана трыма ордэнамі. Паняцце патрыятызму ў нас было палітызавана і звязана выключна з баявымі подзвігамі. Праца на зямлі была непатрыятычнай. А краязнаўства ж як вышэйшая форма патрыятызму ў мірны час бярэ свае вытокі якраз з тэзы "дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся". Можна шмат разважаць на гэту тэму, але мы заўсёды вернемся да зыходнай кропкі: добрыя словы пра бацькаўшчыну чалавек павінен чуць з маленства. Я ўдзячны настаўніцы Ганне Пачышавай і дырэктару школы Францу Лешчанку за тое, што амаль паўстагоддзя таму прывялі нас да атэстата сталасці з вялікім пачуццём любові да ўсяго нацыянальнага. Заўважце, яны зрабілі гэта не дзеля кан'юнктурных мэт, а па закліку душы. Настаўнік — асоба адказная перад Богам і гісторыяй. Калі я вучыўся ў сельгасакадэміі ў Горках, пашанцавала застаць выкладчыкаў дарэвалюцыйнай эпохі. Ім, хто зведаў усялякія пакуты і прыніжэнні, не дазвалялася жыць у вялікіх гарадах, на схіле гадоў яны ўладкоўваліся туды, дзе была магчымасць. Гэтых педагогаў адрознівалі добразычлівасць, тактоўнасць і асаблівая энергія прыроджанай інтэлігентнасці. Пэўна, усе яны былі рускімі антыпатрыётамі Савецкага Саюза, але сваім прыкладам адносін да чалавека выхоўвалі ў нас высакародныя якасці і, такім чынам, цераз нас праяўлялі сваю любоў да Беларусі. Зазначу пры гэтым, што палітычная сістэма ніяк не ўплывала на гэты працэс. Ужо потым, калі вучоба была закончана і я прыехаў на працу ў Пухавіцкі раён, ува мне жыло гэта выхаванае пачуццё "любоў" — да бліжняга, да радзімы, да працы. У Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме, куды я прыехаў як малады спецыяліст, знайшоў падтрымку, заўважыў, што і тут, воддаль ад маёй малой радзімы, жыве спагада. І ўжо сам раён, яго жыхары падаліся мне роднымі і блізкімі. У Загаі і Навасёлках, Вендзежы і Кавалёве, Лядцы і Дайнаве я пачуў шмат цікавых гісторый пра мінуўшчыну краю. Было неяк сорамна пасля гэтага ехаць на родную Веткаўшчыну і казаць, што Пухавіцкі раён больш старажытны і цікавы. Так узнікла неспатольнае жаданне даследаваць родны край, аддаць яму належную пашану. Спачатку, як гэта і бывае ў маладых, імкнуўся заявіць пра сябе як спецыяліст. Напісаў і выдаў дапаможнік для тэхнікумаў, іншыя кніжкі па пытаннях, у якіх ведаў толк. Але бацькаўшчына не звярнула на гэта ўвагі, яна клікала мяне, назвала па імені галасам далёкіх продкаў. Узмацнялі гэты голас і жывыя мяцовыя вяскоўцы-філосафы. Я заўважыў: калі цяпер не пісаць, не даследаваць мясціны, многае пойдзе ў нябыт.

**— У вашых кнігах грунтоўна даследавана мінуўшчына населеных пунктаў, але ў іх шмат і пра сучаснасць. Ці патрэбна гэта для краязнаўства?**

— Апісваць сучаснікаў трэба абавязкова! Краязнаўства вёскі — гэта адрэзак гісторыі геаграфічнага месца, ён не можа існаваць без пачатковага і канцавога пункта. Пачатак мы шукаем у літаратуры, архівах, нешта запісваем па ўспамінах, але канцавы пункт у кнізе — сучаснасць. Тут не ўсё так проста. Аберацыя блізкасці робіць сучасніка малазначнай фігурай перад тымі, хто адышоў у вечнасць. Але ці так гэта на самай справе? Колькі выдатных людзей акружаюць нас сёння, якія выдатныя асобы, характары, якія выдатныя іх справы! Праз колькі дзесяткаў гадоў і яны ўжо будуць гісторыяй. А як можна абысці ўвагай вясковую абшчыну? Жыхары вёскі — гэта не проста ланцужок сем'яў, а дастаткова складанае грамадскае ўтварэнне, падзеленае на роды. Са старажытных часоў пры стварэнні новай сям'і ўважліва праводзіўся аналіз генеалогіі роду будучага спадарожніка жыцця. Прыкладамі такога "адбору" поўніцца наша мастацкая літаратура. Роды перапляталіся, ствараліся новыя, але ў іх падмурку ляжаў усвядомлены адбор, слова бацькоў было апошнім. Людзі не ведалі, што такое ген, але да захавання спадчыны падыходзілі па-навуковаму. Адрынутыя вясковым грамадствам ці проста людзі, якія не знайшлі сябе, ёсць у кожнай вёсцы, і пра іх я пішу таксама.

**— Заўважана, што ў сваіх даследаваннях вы калі-нікалі згадваеце злодзеяў і прайдзісветаў, часцяком прыводзіце вясковыя мянушкі.**

— Я фіксую жыццё такім, як яно ёсць. Вясковая мянушка — трапная народная метафара. Іншая справа, што і пра такіх людзей трэба пісаць з павагай, не парушаючы нормаў этыкі. Я прыводжу мянушку і не тлумачу, да якога прозвішча яна адносіцца, сучасныя вяскоўцы ведаюць, пра каго ідзе размова. Для гісторыі ж важна, што такі літаратурны "жанр" некалі існаваў. Ды і мянушкі на вёсцы ў асноўным не здзеклівыя, а гуманістычна-добрыя. Краязнавец — гэта ў пэўным сэнсе фатограф.

**— То ж я і бачу, што ў вашых кніжках, як некалі на сцяне ў вясковай хаце, — галерэя партрэтаў.**

— Здымак часам утрымлівае ў сабе болей інфармацыі, чым дзясяткі старонак тэксту. У тых хатах, пра якія вы кажаце, вяскоўцы з хваляваннем захоўвалі пад шклом фотаздымкі ўрачыстых і сумных момантаў свайго жыцця, родных, а часам і проста здымкі імгненняў. У гэтых здымках — эпоха. Цяпер і здымкаў не вешаюць, ды і фотасправа кардынальна змянілася.

Калі я працаваў над кнігай пра Гомельскі конны завод, мне пашчасціла адшукаць рэдкія здымкі першага дырэктара завода Аляксандра Іванова, якія былі зроблены ў 1930-я гады. Угледзіцеся ў яго твар, і вы зразумееце высакароднасць гэтага чалавека. Між тым такіх, з адкрытым тварам, людзей у тыя гады расстрэльвалі ў першую чаргу. Прыйшлі сталінскія апрычнікі ў хату і да Аляксандра Іванова. У час вобыску заўважылі на сцяне здымак, на якім гаспадар быў сфатаграфаваны побач з Сямёнам Будзённым. Гаспадара забралі, але з цягам часу адпусцілі. Выратаваў жыццё здымак, зрабілі запыт у Маскву.

А вось унікальны аматарскі здымак пераносу "Свячы" (так называюць пераносны абраз-заступнік у вёсцы Данілавічы), зроблены ў 1950-я гады. На ім адлюстраваны і абрад, і страх перад асуджэннем за веру. Скажаце, не было такога?

Зразумела, што краязнаўца без працы ў архівах не можа стацца. Вось апошнім часам дзякуючы даследаванням у Гомельскім абласным і Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску мне ўдалося аднавіць гісторыю існавання Успенскай царквы і маёнтка ў вёсцы Радуга. Справа даўно мінулых дзён, ад царквы і цаглінкі не засталося, а перада мною разгорнутая карціна яе жыцця, жывыя галасы служыцеляў і прыхаджан. Выканаў план яе прывязкі да мясцовасці, хто ведае, можа, калі адродзіцца.

# Таямніцы родных назваў

Марына ЕЛІСТРАТАВА

**У старажытнасці нашы продкі з мэтай распаўсюдзіць важнае паведамленне абавязкова чыталі яго з узвышша. Таму сёння можна было б сабраць усіх каля высокай гары і паведаміць ім пра выхад кнігі Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч "Сакральная геаграфія Беларусі". Кніга літаральна днямі пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва".**




Збіраючы міфы і паданні пра назвы ўзгоркаў, курганоў, камянёў, ручаёў, аўтаркі аб'ездзілі ўсю Беларусь. Таму кніга насычана жывымі паданнямі, якія і сёння бытуюць у беларускіх вёсках, якія мясцовыя жыхары памятаюць і перадаюць з пакалення ў пакаленне. "Сакральная геаграфія Беларусі" прыводзіць чытача да разумення таго, наколькі багатая, цікавая і разнастайная наша міфалогія, якімі здольнымі на незвычайнае бачанне свету, а дзесьці і на выдумку, былі нашы продкі. Але ў той жа час беларуская міфалогія складаная. Вельмі шчыльна перапляліся ў ёй паганскія і хрысціянскія традыцыі, гэта добра відаць на прыкладзе назваў тапонімаў (але толькі калі навучыцца бачыць).

Пасля прачытання краязнаўчага даследавання Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч навакольны свет падаецца больш блізкім, усё становіцца родным, зразумелым і простым. І неяк адразу пачынаеш ганарыцца ўсім тым, што ёсць на зямлі беларускай: цудамі, святымі месцамі, скарбамі, прывідамі, "Беларускімі Лаўрамі" (у нас ёсць нават такія).

Больш таго, беларуская міфалогія шчыльна знітаваная з сусветнай. У нас, як і ў міфах іншых народаў, ёсць свой медыятар паміж трыма светамі: падземным светам мёртвых, людскім і нябесным, Божым светам. У якасці такога пасярэдніка, правадніка выступае гара. Таму на нашай карце так шмат тапонімаў, у якіх прысутнічае гэтае слова. І не трэба думаць, што Лысая Гара таму лысая, што нежысць вынішчыла там усё жывое. Не, Лысая Гара можа быць і "ясной", "светлай", звязанай з сакральнымі рэчамі. А калі вам сустрэлася Залатая альбо Белая Гара, то да яе трэба паставіцца з асаблівай цікавасцю: там дакладна схаваны вялікі залаты скарб. Ад золата гара і стала залатой альбо белай. Назва ж Красная Гара не заўсёды мае дачыненне да савецкага часу. Краснай Гарой продкі часта называлі вёскі, ушаноўваючы свята вясны.

У выданні "Сакральная геаграфія Беларусі" Людміла Дучыц і Ірына Клімковіч выкарыстоўваюць жывую, лёгкую для ўспрымання мову. Кніга напісаная як казка: захапляльна, пераканаўча (узнікае жаданне даць усяму веры). Таму "Сакральная геаграфія Беларусі" будзе карыснай і цікавай і школьніку, і навуковаму супрацоўніку. Кніга багата ілюстравана, у ёй шмат фотаздымкаў, якія добра паказваюць асаблівасці беларускага ландшафту. Па-свойму адметнае і афармленне кожнай часткі: мастак А. Жданоўская крыху містычна прадставіла нашы краявіды. Сваёй працай аўтары нібы сцвярджаюць: не варта ў сучасным жыцці губляць цуд, пакінуты нам з сівой даўніны.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# На скразняках часу

**Спадчына Рыгора Саламонавіча Бярозкіна (1918 — 1981), вядомага крытыка і літаратуразнаўцы, на жаль, пакрысе пачынае забывацца. Між тым, ягоныя грунтоўныя крытычныя манаграфіі і артыкулы па беларускай паэзіі, асабліва апошняга перыяду яго жыцця, шмат у чым і сёння вартыя ўвагі ды і перавыдання. Бадай што, ён першым глыбока зразумеў сутнасць творчага метаду цэлага шэрагу нашых паэтаў, асабліва — Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, убачыў повязі паэзіі "нашаніўства" з класічнай рускай паэзіяй. Цяпер значна больш памятаюць пра трагічную біяграфію крытыка, дзе маладнякоўства, рэпрэсіі, вайна спляліся ў стракаты сувой. Ён застаўся жывы, але пра жыццё ягонае вядома не так і шмат. Адну са старонак біяграфіі Бярозкіна прыадчыняе ў сваіх дзённіках Уладзімір Гніламёдаў.**

***Аддзел крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ"***

**1975**

**17 кастрычніка.** Пачала работу Дэкада кнігі ПНР у Беларусі. Быў на выстаўцы. Сустрэў Бярозкіна. Не ведаю, які ў яго быў настрой, але ён прапанаваў: "Давай, таварыш Гніламёдаў, сходзім у "Журавінку". Я ажно зніякавеў: "У рэстаран? У рабочы час?" Аднак дзень хіліўся ўжо да вечара і рабочы час заканчваўся, а Рыгор Саламонавіч бясконца цікавы чалавек. Я ўздыхнуў і даў згоду, тым болей, што ў кішэні з паўсотні рублёў было. Ніколі б не дазволіў, каб за мяне плаціў Бярозкін.

"Журавінка" сустрэла гасцінна, селі за свабодны столік, зрабілі даволі сціплы заказ. <...> Зайшла чамусьці гаворка пра Глебку. Можа таму, што і ён не супраць быў час ад часу завітаць у рэстаран. Бярозкін пахваліўся, што з Глебкам (відаць, яшчэ да вайны) выпілі бочку гарэлкі. Глебку хваліў, а на Крапіву скардзіўся. Аднёс у "Полымя" артыкул пра паэму Я. Купалы "На Куццю", а Кірэенка даў на водзыў Кандрату Кандратавічу, і той параіў устрымацца, не друкаваць. Пры савецкай уладзе гэтая купалаўская рэч — "невыяздная", калі і друкавалася, дык толькі адзін раз, недзе на пачатку 20-х. Знаходзіцца ў "спецхране".

Каб падняць субяседніку настрой, я прыгадаў, як быў усцешаны сябар Крапівы Броўка, калі прачытаў у "Вячэрнім Мінску" артыкул пра сябе "Сталасць — гэта не старасць", як хваліўся: "Сам Бярозкін пра мяне напісаў! Бярозкін!" Чуў на свае вушы.

— Сапраўды, я даўно пра яго не пісаў, — пагадзіўся Рыгор Саламонавіч, — яшчэ з канца 50-х, калі ён не прыняў мой артыкул пра яго ў кніжцы "Паэзія праўды". Вельмі быў незадаволены, дык я перастаў яго чапаць.

Я прыгадаў, як ездзіў у Брэст у кампаніі Сяргея Сяргеевіча Смірнова і колькі дзіўнага, незвычайнага расказаў ён пра чалавечыя лёсы ў вайну. Пра некаторыя збіраецца напісаць.

— Хай бы пра мой напісаў, — уздыхнуў мой візаві. — Ён умее пісаць.

— Дык вас трэба звесці!

Бярозкін амаль не есць, затое часта курыць, зацята смаліць свой "Беламор". Раптам згадвае:

— У Святлоўскай "Трэнадзе", памятаеце, ёсць радкі:

*Смычками страданий*
*На скрипках времён…*

— Памятаю.

— А ці ведаеце, што гэта за радкі? Што ў іх?

— Радкі прыгожыя, — сказаў я, а што імі хацеў сказаць паэт — гэтага я, па праўдзе, не ведаю.

— Гэта гісторыя яўрэйскага народа.

Я, прызнацца, быў здзіўлены.

— Дык вось і маё жыццё такое… — Ён памаўчаў. — Арыштавалі мяне перад вайною. Я быў на той час малады, але ўжо вядомы крытык. Разам з Піменам Панчанкам і Уладзімірам Кандрацененм у 1938 годзе ездзіў на ўсесаюзныя курсы маладых пісьменнікаў у Маскву. Цікавая была паездка. Нам чыталі лекцыі, наладжвалі сустрэчы. Сустракаліся з Ісакам Бабелем, Аляксеем Талстым, Фадзеевым, Усевaладам Іванавым, літаратуразнаўцамі Леанідам Цімафеевым і Барысам Сучковым, былі ў майстэрні Пятра Канчалоўскага, у тэатрах, у МХАТе, на выстаўках. Засталося шмат уражанняў, асабліва ад сустрэчы з Бабелем, ад якога я ўпершыню пачуў, што пісьменнік павінен быць пачуцэнным мужчынам. Каб яго сексуальная энергія перайшла на творчасць, сублімiравалася ў ёй. Інакш творчасць будзе бляклай і слабой. Пры гэтым Бабель спасылаўся на Горкага і Талстога. З Горкім Бабель сустракаўся, і той сам яму пра гэта казаў.

— А самі вы, Рыгор Саламонавіч, што на гэты конт думаеце?

— Я мяркую, што ўсё ж такі эмацыянальная прырода творчасці шырэй. Абапіраецца яна не толькі на сексуальную адоранасць творцы, але і на іншыя складнікі. Вы вось пішаце, дык паназірайце за сабой.

Узялі яшчэ па чарцы.

— Але ж мы ўхіліліся ад вашага аповеду, — напомніў я. Рыгор Саламонавіч закурыў.

— Усяго не раскажаш. Гісторыя доўгая. Хіба што некаторыя моманты. Арыштавалі ў 1940-м, калі з групай пісьменнікаў вярталіся з Беластока, дзе мы сустракаліся з пісьменнікамі-пачаткоўцамі і чытачамі. Арыштавалі на пад'ездзе да Мінска, у поездзе. Апранулі на мяне шыняля і па пероне вялі ў шыняле. Магчыма, каб не відаць было, што вядуць арыштаванага, што вядуць арышты. Але людзі азіраліся, шынель быў замалы. Трапіў на "валадарку", і пачаліся допыты. Следчыя мяняліся адзін за другім, а я сядзеў на адным месцы, не ўстаючы з табурэткі. Спаць не давалі. Канвеерная сістэма. Пра ўсё, здаецца, спыталі, усе пытанні вычарпалі, але следчаму пакідаць паддопытнага ў спакоі нельга, і зноў усё пачынаецца спачатку. Потым крыху адчапіліся, пакінулі ў камеры, перавялі ў Пішчалаўскі замак. Мне страшэнна балелі зубы, але на гэта ніхто не звяртаў увагі. Затое прынеслі з турэмнай бібліятэкі кнігу — "Пархоменка" Усевалада Іванава, таго самага, з якім у Маскве на курсах сустракаліся. Раман слабы, непраўдзівы. Потым, дарэчы, Усевалад Іванаў каяўся, што, паступіўшы сумленнем, напісаў яго.



— У першыя дні вайны нас, зэкаў, калонай пагналі на ўсход. Клалі ніцма да зямлі, прыстрэльвалі. Траплялі пад бамбёжку, і аднойчы мне ўдалося ўцячы. Падаўся на фронт. Прайшоў ад Сталінграда да Берліна. У сорак чацвёртым трапіла да мяне беларуская газета, даведаўся пра смерць Кузьмы Чорнага. Ведаеце, так шкада яго стала.

Перамогу святкаваў у Берліне. З Берліна паслаў допіс у "ЛіМ" — развагі пра паэзію. І вось якая штука атрымалася: мой матэрыял прачыталі не толькі тыя, каму я адрасаваўся, але і ў КДБ. Гэта я зразумеў, калі заўважыў за сабою хвост — дваіх у дыяганалевых плашчах і ялавых ботах. Зразумеў і адразу пайшоў да стаматолага, каб вырваць хворыя зубы. У турме надта цяжка з хворымі зубамі, ніхто не дапаможа.

Арыштавалі і пасадзілі ў Маабіцкую турму. Апынуўся я ў адной камеры з лётчыкамі-эсэсаўцам. Праз дзень-другі сталі размаўляць, разгаварыліся. Я па-нямецку ведаю. Расказаў пра адзін эпізод са свайго ваеннага жыцця, які меў адносіны да авіяцыі. Было гэта на Варонежскім фронце, на перадавой. Мы тады з вінтовак лупілі па нямецкіх самалётах, якія часам над намі лёталі. Збіць самалёт з вінтоўкі цяжка, практычна немагчыма, і нам забаранілі псаваць патроны. І ведаеце, што адказаў немец?

— Дарэмна, — сказаў ён. — Куля трапляе ў крыло, і на плоскасці вырастае кветка. Машыну адпраўляюць у рамонт, нашываюць лату, папраўляюць крыло. Гэта займае пэўны час. Машына выходзіць са строю.

— Шкода відавочная, — згадзіўся я.

— А наша камандаванне забараняла.

Мяне інтрыгавала, што ў лёсе Рыгора Саламонавіча было далей.

— Выйдземце на свежае паветра, — прапанаваў ён, і мы развіталіся з афіцыянтам.

Выйшлі на бераг Свіслачы.

— Потым, пасля берлінскага Маабіта зноў быў Пішчалаўскі замак і зноў прынеслі, падалі ў акенца раман Усевалада Іванава "Пархоменка". Проста містыка нейкая!

— Далей былі лагеры. Гэта — цяжкія старонкі майго жыцця. Вы не ўяўляеце, што гэта такое — жыццё за калючым дротам. Знясільваючая праца, жорсткасць начальнікаў, блатнякі… Дарэчы, пра гэта мог бы расказаць Сталяроў.

— Супрацоўнік бюро па прапагандзе літаратуры?

— Ён самы. Разам "маталі" тэрмін. Ён умеў "ціснуць" блатнякам раманы. "Ганну Карэніну" пераказваў і "Графа Монтэ-Крыста". Былі яшчэ ў нашай брыгадзе Барыс Сучкоў і Гумілёў Леў Мікалаевіч. З імі было цікава. Барыс добры ўчотчык быў, умеў вынікова закрыць нарад, а Леў Мікалаевіч кнігі свае сачыняў. Алоўка і паперы не давалі, дык ён у галаве, на памяць сачыняў.

— А хто ж на вас данос зрабіў? — спытаў нарэшце я.

— Айзік.

— Кучар?

— Ён.

Ідучы берагам Свіслачы, заўважылі ў вадзе нейкага вусатага звярка. Плыў да берага, смешна натапырыўшы вусы. Выдра, ці што? Рыгор Саламонавіч зноў закурыў, зацягнуўся папяросай.

— Цяжка табе там, у тваім ЦК, — паспачуваў ён, — кідай, ідзі куды ў газету ці часопіс. Ты ж маеш фах на руках, няблага пішаш пра літаратуру…

— Я пра гэта думаю.

Праз купалаўскі сквер дайшлі да праспекта і развіталіся.

**1976**

**29 сакавіка.** Быў у гасцях у Бярозкіна. Жыве ён на плошчы Якуба Коласа каля філармоніі. Запрасіў сам Рыгор Саламонавіч. Перад гэтым ён узяў у мяне томік Мандэльштама (выдадзены нядаўна ў серыі "Бібліятэка паэта") і, відаць, не хоча з ім расставацца. "Не буду ж я чытаць Багрыцкага. Багрыцкі — гэта кансервы. За Мандэльштама, — кажа, — дам табе Ду Фу і Лі Бо. Адзін і другі ў мяне ёсць".

— Маякоўскі ў такіх выпадках казаў: "Отнеситесь!" Прасіць ён не любіў, ганарысты быў, а казаў: "Отнеситесь!"

— Дамовіліся, Рыгор Саламонавіч, хай Мандэльштам застаецца ў вас. А кітайцы ў мяне ёсць.

— Ну, то добра. Вось толькі прадмова Дымшыца тупая…

Бярозкін адчувае і ведае паэзію, упэўнена ў ёй разбіраецца, мае свае крытэрыі ацэнкі і цікава піша. Падпісаў мне сваю кніжку "Свет Купалы". Я яе ўжо прачытаў да гэтага і высока стаўлю, як значны крок у развіцці купалазнаўства. Янка Купала, паводле Бярозкіна, не толькі паэт, а, у нацыянальным сэнсе, нешта больш сакральнае.

Сям'я Рыгора Саламонавіча — жонка Юлія Міхайлаўна Канэ (літаратурны крытык, як і Бярозкін), двое дзетак. Кватэра прасторная, стольвысокая, але жывуць, мне падалося, не багата, хутчэй нават бедна. З "новай буржуазіяй", што пры ўладзе, не маюць нічога агульнага.

На стале — бутэлька "Кабернэ", закуска, пачак "Беламору".

Размова зайшла пра Маякоўскага. М. Лужанін неяк даваў мне чытаць кнігу "Успаміны сучаснікаў пра Маякоўскага". Адна з аўтараў гэтых успамінаў — жанчына-мастачка — піша, што ў 20-я гады ў асяроддзі савецкай інтэлігенцыі модным было ўтвараць сямейныя шлюбы з трох чалавек: два мужчыны і жанчына або дзве жанчыны і мужчына. "Такое было веянне часу", — патлумачыў Аляксандр Амвросьевіч.

— Было, — згадзіўся Рыгор Саламонавіч. — "Сексуальная рэвалюцыя", пра якую надта гучна гамоняць на Захадзе і якая мае нават сваіх тэарэтыкаў, такіх, як Маркузэ, пачалася не ўчора. Яе прадказаў Ленін: "В области брака и половых отношений, — лічыў ён, — близится революция, созвучная пролетарской". Новыя адносіны назвалі "грамадзянскім шлюбам". Восіп Брык, Ліля і Маякоўскі жылі разам грамадзянскім шлюбам. Але гэта складаная гісторыя. Гэта людзі неардынарныя. Восіп Брык і Ліля, як і Маякоўскі, шмат ездзілі па свеце, выконвалі розныя заданні, даручэнні высокіх службаў.

Маякоўскі быў чалавекам рашучым, бескампрамісным і самаўпэўненым, імкнуўся выглядаць нахабам, лідэрам, непераможным любоўнікам.

Восіпа (ён быў вядомы працамі па вершаскладанні), пасля смерці Маякоўскага, зганіў Ілья Сяльвінскі, напісаўшы на сцяне дома, каля пад'езда, дзе жылі Восіп і Ліля, такое двухрадкоўе:

*Здесь живет не Брик —*
*исследователь стиха,*
*А шпик и следователь ЧК.*

Заадно зганіў і Маякоўскага. Адразу як толькі яго не стала.

— Я пра гэта не чуў, — прызнаўся я.

— Пасля смерці У. Маякоўскага Л. Брык паспела пабыць жонкаю Прымакова — кавалерыста, героя грамадзянскай вайны, якога яна ўгаварыла паслаць ліст Сталіну ў абарону Маякоўскага. Гэта на гэтым лісце Сталін налажыў рэзалюцыю: "Маяковский был и остаётся лучшим поэтом нашей советской эпохи". Брык памёр у 1945 годзе. Цяпер Ліля жонка Васілія Катаняна — даследчыка творчасці Маякоўскага. У Парыжы ў яе сястра Эльза — Эльза Трыяле, замужам за Луі Арагонам.

Эльзу Трыяле я ведаю як французскую пісьменніцу, друкуецца ў "Иностранной литературе", у перакладзе на рускую мову.

Рыгор Саламонавіч закурыў і працягнуў гаворку:

— Ці ведаеце такога пісьменніка, як Барыс Пільняк?

— Ведаю. У КЛЭ пра яго артыкул. Аповесць "Голы год" чытаў, пра "кожаные куртки"…

— Напісаў ён шмат. Таксама, як і Маякоўскі, шмат па свеце ездзіў. Напісаў "Повесть непогашенной луны", у якой расказаў, як Сталін забіў Фрунзе. Між іншым, яе надрукаваў "Новый мир" у 1926 годзе. Увесь тыраж часопіса быў канфіскаваны. Чэкісты прыходзілі да падпісчыкаў на кватэру і забіралі часопіс у тых, хто выпісваў яго і паспеў атрымаць.

Пра ўсё пра гэта чую ў першы раз.

Спытаў у Бярозкіна: "А што такое трацкізм?" Трацкізм, Троцкі — пра іх маё пакаленне ведае не шмат, і гэтыя тэмы ніхто не абмяркоўвае. Калі часам чуеш, дык толькі "Иудушка Троцкий".

— Постаць неардынарная. Ленін давяраў Троцкаму бясконца. Гэта ж дзякуючы яму перамаглі ў грамадзянскай вайне, калі толькі ў такой вайне можна перамагчы. Выдатны, палымяны прамоўца. Умеў разварушыць чалавека. Апроч таго, і можа гэта самае галоўнае, ініцыятар сусветнай рэвалюцыі, яе тэарэтык. Абяцаў напаіць коней у Атлантычным акіяне. Але не ўдалося. Пасля вайны, калі пасябравалі з Кітаем, казалі: "Не вышло через Берлин — выйдет через Пекин".

— Між іншым, — Рыгор Саламонавіч зноў зацягнуўся сваім "Беламорам", — Троцкі назваў сталінцаў "тэрмідарыянцамі", гэта значыць якабінцамі-адступнікамі, якія здрадзілі пралетарыяту ў імя новай буржуазіі, карыстаючыся стомленасцю рэвалюцыянераў і ўсяго народа.

Пра ўсё гэта чую ўпершыню.

Бачыцца з Бярозкіным цікава, але калі падумаеш, што ў панядзелак з раніцы на работу, дык сумна ўздыхнеш.

***На здымку:*** Рыгор Бярозкін.

Кнігарня роднаснасці

# Падарожжы: сентыментальныя і не

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**“ЛіМ” працягвае знаёміць чытача з новымі выданнямі, што тычацца суайчыннікаў: паводле хітрай задумы Адама Мальдзіса, адна кніга мае быць выдадзеная там і прысвечаная тутэйшым, а другая — выдадзеная тут і прысвечаная тамтэйшым. Адпаведна, сёння мы разгледзім “Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.”, напісанае Ганнай Кандрацюк — журналісткай тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”, — і збор твораў Уладзіміра Дудзіцкага, падрыхтаваны Лявонам Юрэвічам. Абедзве кнігі выдадзеныя ў 2010 г. — першая ў Беластоку, другая ў Мінску, на абедзвюх вокладках — фотаздымкі беларускіх паэтаў.**

## Містычная вандроўка

Верагодна, чытач ужо здагадаўся, што прозвішча Анатоля С. даўжэйшае за свой ініцыял усяго на два сімвалы: у невялічкай кнізе Ганна Кандрацюк распавядае пра наведванне літаратурнага семінара “Бязмежжа-2009”, што ладзіўся на Дзяды ў Гарошкаве, дзе нарадзіўся і пахаваны Анатоль Сыс.

Натуральна, у кнізе шмат цытат з вершаў і ўспамінаў пра паэта, да якіх далучаюцца расповеды пра сваякоў і сяброў Сыса, пра сучаснае Гарошкава, пра падабенства між падляшскімі і палескімі вёскамі, пра беларускія вакзалы, гродзенскую кнігарню і праблемы з часовай прапіскай. Ганна Кандрацюк здолела пазбегнуць пераказаў агульнавядомага і распавесці сапраўды цікавыя факты з біяграфіі Анатоля Сыса. Так, прычына пажару, да вобраза якога часцяком звяртаўся паэт, была абсалютна побытавай. Марыя Сыс, цяжарная будучым паэтам, зайшла да суседкі і дапамагала заправіць лямпу-керасінку: “Яна ўзяла тую лямпу і дзяржыць. А суседка залівае. І як бухне! Тая каністра разарвалася. Бо ўсярэдзіне бензін быў. Ды ўсе, як сталі, загарэліся”, — запісала Ганна Кандрацюк расповед сястры Анатоля. Марыя выратавала суседчына немаўля, а на шляху ў бальніцу пачаліся роды.

“Дзядоўскае турнэ” непрыкметна знаёміць нас і з самой Ганнай Кандрацюк, якая выправілася ў Гарошкава разам з калегай Мірай Лукшай. Журналістка не звяртаецца да падкрэсленай суб’ектыўнасці — кніга прасякнутая цеплынёй і спагадай, але непасрэдныя ўражанні падарожніц, іх назіранні і асабістыя заўвагі робяць расповед дынамічным і эмацыйным і лепш за лагічныя развагі дазваляюць адчуць светаўспрыманне аўтаркі. Крыху здзіўляе тое, што ў “Дзядоўскім турнэ” амаль няма трагізму і змрочных фарбаў: расповед атрымаўся светлым, нават аптымістычным (падчас сакральнай вандроўкі ў сэрцы пілігрыма, бадай, заўсёды жыве замілаванне і ціхая радасць). Таму нечакана сумнымі падаюцца апошнія старонкі, дзе аўтарка засяроджваецца на “алкагольнай праблеме” паэта і ўжо нават не распавядае пра вяртанне ў Беласток (шлях да Гарошкава мае даўжыню ў тры васямнаццатыя часткі аповеда).

Называючы кнігу “Дзядоўскім турнэ ***з*** Анатолем С.”, пісьменніца невыпадкова ўжыла гэты прыназоўнік замест, напрыклад, лагічнага ***да***: паводле “сталічных легенд”, разам з “Мірай Лукшай і Ганнай Кандрацюк падарожнічае дух Анатоля Сыса”. У кнізе прыводзіцца безліч містычных гісторый, пачынаючы з таго, як за журналісткамі “ганяліся ўсе сабакі Беларусі” (“дух памерлых прыходзіць на Дзяды ў вобліку сабакі”) і скончваючы яблыкамі і апельсінамі, якія звальваюцца са стала якраз падчас нараканняў на “эстэтычныя хібы вёскі Гарошкаў”. Па меркаванні аўтаркі, “так, як у Беларусі, нідзе на свеце не вераць у цуд”, але некаторым беларусам-матэрыялістам таямнічасць кнігі можа здацца збыткоўнай. Частотныя згадкі літаратурнай “сталічнай багемы” таксама не абавязковыя: падвышаць аўтарытэт кнігі такім чынам зусім не патрэбна, бо выданне атрымалася вельмі добрым, у значнай ступені дзякуючы выдатнаму дызайну і вялікай колькасці цікавых фотаздымкаў. Добра было б зрабіць цэлую серыю кніжачак такога фармату: прыкладам, выправіць сучасных беларускіх пісьменнікаў на малыя радзімы класікаў, каб можна было “і сябе паказаць, і пра папярэднікаў напісаць” — як, напрыклад, зрабілі рускія пісьменнікі ў двухтомніку “Литературная матрица”.

## Вершы з Венесуэлы

Збор твораў Уладзіміра Дудзіцкага (вершы, паэмы, пераклады і проза) распачынаецца вельмі інфарматыўнай прадмовай Лявона Юрэвіча, якая, магчыма, шмат каго падштурхне паглыбіцца ў тэму “Суайчыннікі ў свеце”. Не ўсе, напрыклад, ведаюць пра DP-лагеры (ад Displaced Persons, “перамешчаныя асобы”), якія знаходзіліся ў розных краінах Еўропы пасля Другой сусветнай вайны. У такіх лагерах жылі былыя грамадзяне СССР, што не жадалі вяртацца на радзіму. Паводле дамоўленасці Сталіна з Эйзенхаўэрам, прытулак на Захадзе маглі атрымаць не ўсе: галоўным чынам, асобы, што да 1939 г. не жылі на тэрыторыі СССР, і асобы, пацярпелыя ад палітычных рэпрэсій. Натуральна, імкнуліся застацца ў Еўропе і людзі, што супрацоўнічалі з фашыстамі, — праўда, некаторых вярталі ў краіну сацыялізму, дзе чакаў зусім незайздросны лёс.

*Навяз на зубы тэрмін “вываз”*
*і думы сушыць і скрабе:*
*мо’ морскіх хваль сівыя грывы*
*нас прыгалубяць да сябе?..*

Уладзімір Дудзіцкі (селянін, студэнт Беларускага педагагічнага тэхнікума, лагернік і — пачынаючы з мінскай сямігодкі — паэт) сапраўды быў “прыгалублены морскімі хвалямі”, але не ў самым трагічным сэнсе: напрыканцы 40-х гадоў эмігрантаў з Еўропы сардэчна запрашалі ў краіны Лацінскай Амерыкі для развіцця сельскай гаспадаркі. Уладзімір Дудзіцкі трапіў у Венесуэлу, дзе, як ні дзіўна, жылі і іншыя беларусы: у 1949 г. Дудзіцкі нават стварыў Аб’яднанне беларусаў у Венесуэле (АБВ). У 1953 г. ён ужо працаваў шэфам Эксперыментальнага цэнтра Нацыянальнага аграрнага інстытута — “пасля таго, як здаў экстэрнам экзамены і абараніў дыплом доктара сельскагаспадарчых навук”. Паводле лістоў Дудзіцкага, ён нават выдаваў часопісы на іспанскай мове — цікава, ці сапраўды шмат зрабілі беларусы для развіцця венесуэльскага земляробства?.. Напачатку новая краіна вельмі ўразіла Дудзіцкага:

“Рабі што хочаш і жыві як хочаш. Сацыяльны кантраст страшэнны: поруч з казачным багаццем стаіць і нечуваная беднасць добрае чвэрці мясцовага жыхарства. Аднак гэта тая частка, што не любіць працы і не хоча працаваць або прапівае ў суботу ўсё тое, што заробіць за тыдзень. <…> Вельмі віратлівае жыццё: у ім няма часу на доўгі адпачынак і вялікія развагі. Сіла гарачага поўдня, сіла зямлі — найвялікшы валадар чалавека”.

Аднак праз сем гадоў Дудзіцкі пакінуў Венесуэлу і пераехаў у Германію, праз некалькі гадоў — у ЗША, дзе сляды паэта згубіліся. Цікава было б праілюстраваць экзатычны перыяд жыцця паэта ягонымі вершамі — але ў эміграцыйнай творчасці Дудзіцкага няма венесуэльскіх матываў і яркага каларыту:

*Доўга буду жыць*
*яшчэ ці мала,*
*але сэрцу мроіцца адно:*
*моцна да вачэй маіх прыпала*
*поля васільковага відно —*
*сіняе і чыстае такое,*
*хоць да раны свежай прылажы.*
*Толькі не дастаць яго рукою,*
*не пераступіць ніяк мяжы…*

Галоўнай тэмай паэзіі Уладзіміра Дудзіцкага так і засталася любоў да Радзімы і роднай мовы – як і для большасці беларускіх паэтаў усіх часоў.

# Шчыры беларус з Адэсы

Мікола ПРЫГОДЗІЧ

**Упершыню мы сустрэліся ў канцы мая 2008 года падчас правядзення “круглага стала” на тэму “Беларуская мова як састаўная частка славянскага пісьменства і культуры”. “Круглы стол”- вечарыну праводзіла адэскае нацыянальна-культурнае аб’яднанне “Беларусь”, і адным з актыўных арганізатараў і ўдзельнікаў яе быў Адольф Фаміч Стэльмах — акадэмік Украінскай і Нью-Ёркскай акадэмій аграрных навук, доктар біялагічных навук, прафесар, адзін з сусветна вядомых генетыкаў-селекцыянераў.**

Нягледзячы на заяўленую, здавалася б, чыста філалагічную тэматыку пасяджэння, шаноўны акадэмік прыняў у абмеркаванні пытання самы дзейсны ўдзел — палемізаваў, разважаў пра стан сучасных усходнеславянскіх моў, шчыра непакоіўся за далейшы лёс беларускай мовы і кніжнага пісьменства. Здзівіла мяне тады і літаратурна-мастацкая дасведчанасць вучонага, яго добрае веданне сучаснай беларускай літаратуры і аўтараў, што толькі нядаўна прыйшлі ў шэрагі літаратараў-прафесіяналаў.

Вечарына, распачатая ў Палацы культуры імя Лесі Украінкі, працягвалася ў штаб-кватэры аб’яднання “Беларусь” на вуліцы Садовай, што мяжуе са славутай Дэрыбасаўскай. І тут выявіўся новы яркі талент акадэміка Стэльмаха — арыгінальнага тамады з безліччу народных анекдотаў, прымавак і прыпавесцей, спевака з цудоўным голасам. Высветлілася, што Адольф Фаміч нарадзіўся ў сялянскай сям’і на хутары Дамінова недалёка ад Вязынкі Янкі Купалы, а дзед па бацьку быў родам са Стаўбцоўшчыны, радзімы Якуба Коласа. І хоць не стаў наш знаёмы ў далейшым філолагам, любоў да роднага слова ў акадэміка вельмі моцная. Тады ж, падчас камандзіроўкі ў Адэсу, я даведаўся, што большасць тэкставых апрацовак па-беларуску, у тым ліку і гімн адэскіх беларусаў (на матыў вядомага раманса Засухіна-Рыбчынскага “Берега, берега”) — вынік паэтычнага таленту Адольфа Стэльмаха.

А зусім нядаўна атрымаў і неспадзяваны падарунак — зборнік Адольфа Стэльмаха “Каб любіць Беларусь...” (Адэса, 2009. — 248 с. Наклад 400 экз.). На вокладцы зборніка — актыўныя ўдзельнікі нацыянальна-культурнага аб’яднання “Беларусь”.

Мяркую, што найлепшую характарыстыку зборніку даў сам аўтар у прадмове да чытача:

“Я — не паэт! Я — навуковы супрацоўнік, беларус у Адэсе. Лёсу давялося парадніць мяне з землякамі, членамі Нацыянальна-культурнага аб’яднання грамадзян “Беларусь”, якое функцыянiруе ўжо 10 гадоў у шматнацыянальнай Адэсе. Атмасфера шчырай любові членаў суполкі да сваіх каранёў, поўнасцю свабодная ад палітычных апярэджанасцей і меркантыльных інтарэсаў, менавіта й была тым натхненнем, якое спанукала ўсіх нас на ўспамін роднае мовы й мясцінак свайго нараджэння. Ні адно са шматлікіх мерапрыемстваў суполкі (афіцыйныя святкаванні, юбілеі, круглыя сталы й нядзельныя школы) не абыходзіцца без спеваў, чытання вершаў. Гэты зборнік — пасільны ўклад у нашы нацыянальна-культурныя зносіны. Галоўным чынам — гэта пераклады на беларускую мову вершаў і рэмейкі вядомых песень, адаптаваныя да жыцця суполкі або прысвечаныя асобным яе членам. На жаль, не для ўсіх збераглісся спасылкі на арыгінальныя тэксты, за што прашу прабачэння ў першааўтараў. Рэштка “аўтарскай творчасці” — часам прымітыўна-наіўныя вершыкі, прывітанні й характарыстыкі асобных землякоў і калег для ўжытку ў сваім асяроддзі, але ўсе яны... ад сэрца, ад душы”.

Ад сябе дадам, што і сапраўды ў зборніку адчуваецца вірлівы рытм грамадска-культурнага жыцця аб’яднання “Беларусь”, а гэта і дні нараджэння актывістаў, святкаванні юбілейных дат, проста беларускія бяседы, калі настальгічна гучаць народныя песні і прымаўкі, узгадваюцца радкі з любімых твораў Купалы і Коласа, Багдановіча, Гілевіча і Пысьмянкова. І штораз гучыць на такіх вечарынах гімн адэскіх беларусаў, у якім ёсць і такія радкі:

*“...Беражы Беларусь! Помнім мы яе тут.*
*Там жыцця маладосць, наша рэчка.*
*Там жыцця маладосць,*
*наша рэчка цякла,*
*Там лясы і лугі, там азёры.*

*А ў Адэсе цяпер славім мы Беларусь.*
*І жыццё наша тут працякае.*
*Як дастойней усе пражывём яго тут.*
*І Радзіме не здрадзім ніколі!”*

У будучы даведнік

Вячка ЦЕЛЕШ



**Алена Іванаўна ЛАЎРЫНОВІЧ (16.12.1970 г., Рыга), мастачка, магістр мастацтва.**

Бацька Алены родам з вёскі Малінаўка Быхаўскага раёна, што на Магілёўшчыне. Сюды дзяўчынка неаднойчы прыязджала да бабулі і дзядулі, тут далучылася да роднай мовы і беларушчыны.

Пасля заканчэння Рыжскай сярэдняй школы № 44 вучылася ў мастацкай студыі ў мастака Віталя Каркунова. У 1997 г. скончыла Рыжскую прафесійную школу па спецыяльнасці “мастак-афармілецль”. З 1987 г. па 1993 г. наведвала падрыхтоўчыя курсы Латвійскай акадэміі мастацтваў, а ў 2004 г. скончыла графічнае аддзяленне гэтай акадэміі са ступенню магістра.

Працуе ў розных графічных тэхніках: літаграфія, афорт, цісненне, калаграфія, а таксама ў шоўкаграфіі, манатыпіі, акварэлі, у жывапісу. У мастацкіх выставах удзельнічае з 1996 г. У 2003 г. і ў 2004 г. удзельнічала ў міжнародных конкурсах “Art SESSIO 03” і “Art SESSIO 04”, а таксама ў 3-й і 4-й Выставах латвійскіх мастакоў у Віцебску. З 2004 г. Алена Лаўрыновіч — сябра Аб’яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар”. Жыве ў Рызе, працуе арт-дырэктарам дызайнерскай фірмы SIA “ADT”, а таксама педагогам на кафедры культуры і мастацтва Інстытута менеджмента інфармацыйных сістэм.



**Сёння тысячы людзей жывуць у стане стрэсу. Яны нібы забыліся, што акрамя паўсядзённай мітусні, забеспячэння матэрыяльных патрэб неабходна яшчэ сілкаваць і душу. Часта мы хворыя фізічна, бо хворыя духоўна. І зеўрае аграмаднай чорнай дзіркай тое, чаго чалавек свядома ці падсвядома сябе пазбаўляе, не чытаючы класічную літаратуру, не слухаючы добрую музыку, не звяртаючы ўвагі на багацце і прыгажосць навакольнага свету, забыўшыся, што прырода — лепшы лекар душы. Магутная крыніца радасці і гаючай сілы закладзена ў ёй. Здольнасць радавацца, адчуваць прыгажосць дапамагае чалавеку жыць і працаваць у камфортнай эмацыянальнай абстаноўцы, пазбаўляцца псіхалагічных перагрузак, атрымліваць зарад фізічнай энергіі.**

# Планета фларыстыкі

**Вольга ЖЫГАР,**
**фота Раісы Марчук**

Няспешнасць рытму жыцця і шматфарбнасць, багацце, дзівосную прыгажосць прыроды адчуваеш, калі трапляеш у Баранавіцкі гарадскі экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва. Тут іншая планета. На ёй жывуць па іншых законах. Галоўныя з іх — Дабрыня, Радасць, Прыгажосць. Тут мы і пазнаёміліся з кіраўніком гуртка фларыстыкі Наталляй Турко. Першае пытанне традыцыйнае:

**— З чаго ўсё пачыналася?**

— Мая прафесія — выбар сэрца. Вучылася ў Бабруйску ў мастацкім вучылішчы. Набыла спецыяльнасць кветкавода-дэкаратара. Пашанцавала, бо тут спалучаліся і кветкі, і мастацтва. Выпускной маёй работай была кампазіцыя "Сад безупыннага квітнення". Пасля выпуску жыла і працавала ў Расіі. Па вяртанні ў Беларусь уладкавалася ў Баранавіцкі гарадскі экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва. І вось ужо шэсць гадоў вяду гуртох фларыстыкі. Цяпер у мяне займаюцца 56 чалавек. Гэтыя заняткі размеркаваны наступным чынам: спачатку два гады дзеці наведваюць гуртох, затым пераходзяць у клуб "Школа фларыста", дзе выконваюць больш складаныя кампазіцыі. Прастора для творчасці неабмежаваная: складаем кампазіцыі, робім мноства калажаў. Усе матэрыялы гуртхоўцы збіраюць самі.

**— Ці ёсць іншыя кірункі ў рабоце гуртка, акрамя фларыстыкі?**

— Так. Дзеці павінны ведаць і ўмець вельмі шмат. Мы вывучаем і засвойваем разнастайныя віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэта саломапляценне, работа з бяростай, бісерапляценне, валянне з воўны, макрамэ, папяровая філігрань… Галоўнае, дзеці вучацца іншымі вачамі глядзець на прыроду. Мае выхаванцы без патрэбы не сарвуць кветку, не зламаюць галінку. А яшчэ — ніколі не пакрыўдзяць жывёлу. У дзятвы выхоўваецца дабрыня, узаемадапамога, не гаворачы ўжо пра тое, што фарміруецца мастацкі густ, адчуванне прыгожага. Яны блізка стасуюцца з прыродай, становяцца добразычлівымі, шчырымі. Часта спрацоўвае прынцып: роўны навучае роўнага.

**— А вы асабіста адкуль чэрпаеце ідэі і натхненне ў рабоце? Што для вас фларыстыка, акрамя прафесіі?**



— Гэта несупынная работа душы і розуму. Ідэі, можна сказаць, нараджаюцца з паветра. Бачыш прыгожую кветку, галінку — і ўзнікае вобраз. Фларысты ўсё робяць са звычайнага "смецця". Што звычайны чалавек і не заўважыць, на тое зверне ўвагу фларыст. Маё хобі — фларыстычны калаж. Аднак цікаўлюся і іншымі дэкаратыўнымі тэхнікамі. Спрабую выраблядь рамы з эфектам старэння. Раблю паштоўкі ў тэхніцы "скраб". Сёння ручная работа з эфектам рэтра цэніцца вельмі высока. Акрамя таго выраблю біжутэрыю ў тэхніцы валяння. Ствараю гіпсавыя адбіткі. Цікаўлюся тэхнікай "дэкупаж". Неабходна ісці ў нагу з часам, таму ўжо чатыры гады вучуся ў маскоўскай школе "Новы кірунак". Некалькі разоў на год у Мінск прыязджаюць выкладчыкі гэтай школы і даюць майстар-класы. За тыдзень заняткаў мы засвойваем 2 — 3 новыя тэхнікі. І ўсё гэта перадаю сваім гуртхоўцам.

**— Мяркую, што для кожнага з вашых навучэнцаў заняткі ў гуртку — гэта не толькі спосаб вольны час правесці ці набыццё нейкіх навыкаў і ўменняў. Творчая асоба ў сваіх работах імкнецца да самавыяўлення і да таго, каб нешта важнае сказаць і паказаць іншым людзям. Раскажыце пра творчыя дасягненні гуртка, пра выстаўкі, у якіх удзельнічалі.**

— Штогод мы ўдзельнічаем у выстаўках, якія праходзяць у Мінскім рэспубліканскім экалагічным цэнтры. Так, штовосень ладзіцца выстаўка "Юннат", і мае гуртхоўцы абавязкова прадстаўляюць на ёй свае работы. І штовосень прывозім узнагароды. Удзельнічаем таксама ў традыцыйным ужо конкурсе зімовых фларыстычных аб'ектаў "Кветкі фантазіі". Рэгулярна выстаўляемся ў Брэсцкім экалагічным цэнтры. А ў мінулым годзе ў нас была вялікая выстаўка "У прыроды няма дрэннага надвор'я" ў выставачнай зале Баранавіцкага краязнаўчага музея. На ёй экспанавалася 180 работ. Плён нашай працы — 17 дыпломаў, атрыманых за апошнія 5 гадоў.

**— Скажыце некалькі слоў пра свае мары і планы.**

— Спадзяёмся, што сёлета Міністэрства культуры Беларусі прысвоіць нам статус творчай студыі, па заканчэнні якой гуртхоўцы будуць атрымліваць спецыяльны сертыфікат.

Ад знаёмства з наведвальнікамі гуртка фларыстыкі і яго кіраўніком Наталляй Турко застаецца светлае ўражанне і цвёрдае перакананне: "Дабрыня і прыгажосць — гэта не толькі лекі душы, а і шлях да духоўнага ўдасканалення і асобы, і грамадства".

***На здымках: Наталля Турко са сваімі выхаванцамі падчас заняткаў у гуртку "Флора-дызайн"; калектыўная работа юнатаў і іх педагога "Сум".***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Творцы



### Джаз-рокавы дэсерт

"Візітная картка" джаз-рокавага спевака і ўладальніка васьмі статуэтак "Грэмі" Эл Джэро — кампазіцыя "Aqua De Beber" — ускалыхнула фешэнебельную філарманічную залу на нядаўнім мінскім канцэрце. У праграме прагучалі хіты: "After All", "We're In This Love Together", "Your Song", "Since I fell for You", "Roof Garden" і шмат якія іншыя песні, напісаныя за 35-гадовы перыяд творчасці. Пад адвольную "Rainbow In Your Eyes" публіка пацягнулася да сцэны: адны — з кветкамі, іншыя — з вінілам для аўтографа. На дэсерт мінскія аматары джаз-рока пачулі ў жывым выкананні мегахіты "Morning" и "Mas Que Nada". І наўрад ці ў зале застаўся хаця б адзін слухач, які не пачуў сваю любімую кампазіцыю ад Эл Джэро.

**Андрэй ЛЕБЕДЗЕЎ**

## З глыбінкі

### Спатканне з Лесяй Украінкай

Такой змястоўнай і хвалюючай вечарыны ў суполцы лідскіх украінцаў "Трэмбіта" хіба не было. На сходку, прысвечаную 140-годдзю з дня нараджэння Лесі Украінкі, прыйшлі не толькі члены грамадскага аб'яднання, але і іх дзеці, вучні нядзельнай украінскай школы. Проста і эмацыянальна распавялі пра творчасць славутай украінскай паэткі актывісты аб'яднання Алімпіяда Коранева, Васіль Тарановіч, Валянціна Гайдурава, Галіна Гусак.

Перад прысутнымі паўстаў светлы вобраз паэтычнай зоркі з Валыні, якая на ўвесь свет уславіла Украіну. Гучалі непаўторныя творы Лесі, у якіх з замілаваннем гаворыцца пра цудоўную прыроду Украіны і яе людзей, украінскія народныя традыцыі. Гаспадары свята заўважылі, што ў творах славутай паэткі шырока выкарыстаны фальклорны матэрыял.

Цудоўна аздобілі вечарыну дзеці. Яны дэкламавалі вершы, спявалі песні, напісаныя на словы Лесі Украінкі. Артыстычна выступалі Ліда і Ганна Лысянковы, Насця і Даша Чысцюкі, Віка Кавальчук.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

## Афарызм

*Простыя такія вялікія – дай мне быць простым. Дай быць чалавекам сярод людзей.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад — 3113

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 17.03.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 1231

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686